ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 50 (2400) 15 снежня 1994 г. Выдаецца з 1955 г.
Цана 40 рублёў.

*БЫЎ У НАС ТАКІ ПАЭТ — Хведар ІЛЬЯШЭВІЧ*

## "ДЫК ЗДАБУДЗЕМ КВЕТКУ ШЧАСЦЯ"

Хведар Ільяшэвіч... Амаль невядомае на Беларусі імя паэта, крытыка, празаіка, нацыянальнага грамадска-культурнага дзеяча, які свой талент мастака і чалавека аддаваў адраджэнню Бацькаўшчыны. Усе, хто ведаў яго ў 20—30-я гады і пазней на эміграцыі, хто быў знаёмы з ім асабіста ці па творчай і грамадскай дзейнасці, пакінулі па Хведару Ільяшэвічу добрыя, цёплыя ўспаміны. Збіраў яго літаратурную спадчыну Юры Жывіца (Попка), які стварыў у Ляймэне (Германія) беларускі музей; блізкім сябрам Хведара Ільяшэвіча і хросным бацькам яго дачкі Марысі (якая цяпер жыве ў Шчэціне) стаў Барыс Кіт, сусветна вядомы вучоны; высокім словам удзячнасці і павагі згадвае яго адзін з самых таленавітых паэтаў на эміграцыі Масей Сяднёў, якому Хведар Ільяшэвіч дапамог у 1944 годзе ў Беластоку на першых кроках выгнання, а беларускі празаік Уладзімір Случанскі (Уладзімір Шнэк) з Аўстраліі лічыць Хведара Ільяшэвіча сваім настаўнікам, які натхніў яго на творчасць (нават літаратурны псеўданім яму прыдумаў). Шмат працы ўклаў айцец Надсон, каб адшукаць і перадрукаваць творы Хведара Ільяшэвіча, раскінутыя па розных выданнях і ў розныя часы. Пісалі пра свае сустрэчы з Ільяшэвічам многія вядомыя на эміграцыі беларусы: Я. Найдзюк, Ю. Віцьбіч, У. Брылеўскі, яму прысвячалі вершы М. Васілёк, М. Сяднёў, М. Кавыль... А пражыў Хведар Ільяшэвіч кароткае, але яркае і змястоўнае жыццё, напоўненае творчым гарэннем, любоўю да людзей, Бацькаўшчыны, за волю і незалежнасць якой ён змагаўся, верыў, заклікаў:

**Беларусь! Прыбірайся**
**у краскі,**
**У песні бурнай і**
**гучнай вясны!**
**Мы збудуем цябе,**
**як у казцы,**
**Светлай, яснай,**
**як нашыя сны!..**

Некалі Гётэ сказаў: "Хто хоча зразумець паэта, той мусіць у край паэта пайсці". А край Хведара Ільяшэвіча — беларуская Вільня, дзе ён нарадзіўся 17 сакавіка 1910 года ў сям'і паштальёна. Бацькі былі беларусы і паходзілі з Пружан. Хведар быў малодшым, меў старэйшага брата Міколу і сястру Ніну. Перажылі імперыялістычную вайну, рэвалюцыі, грамадзянскую вайну, бежанства, але зноў вярнуліся ў Вільню. Дзеці вучыліся ў Віленскай беларускай гімназіі. Хведар з братам прымалі актыўны ўдзел у жыцці гімназіі: выдавалі газету, арганізоўвалі розныя вечарыны, мастацкую самадзейнасць. У гімназіі Хведар пачаў пісаць вершы, прозу. У час летніх канікулаў выязджалі да радні ў Пружаны. Хведар быў незвычайна добрым, шчырым, камунікабельным юнаком, любіў музыку, песні, вакол яго, калі ён выходзіў на вуліцу з гітарай ці балалайкай, заўсёды збіраліся моладзь, дзеці, дарослыя, спявалі беларускія песні, Хведар расказваў пра айчынную гісторыю, чытаў свае вершы. Ён часта хадзіў па навакольных вёсках, распаўсюджваў беларускую літаратуру, прапагандаваў ідэі беларускасці. Гімназію Хведар скончыў у 1930 годзе. Да гэтага часу ён ужо быў вядомым паэтам, бо абразкамі і вершамі дэбютаваў у друку з 1925 года. ("Студэнцкая думка", "Беларуская ніва", "Крыніца", "Калосьсе", у іншых часопісах і газетах...), а ў 1929 годзе выйшаў першы зборнік вершаў "Веснапесні", падрыхтаваны да друку яго сястрой Нінай. У прадмове да гэтага зборніка паэт пісаў: "Я думаю вобразна, дзеля гэтага ў маіх вершах шмат недасказанага. Галоўны тон іх — гэта трывожнасць сучаснае эпохі. Сугадзказна якраз гэтаму, што звініць у цэнтральных вершах, я і назваў зборнічак "Веснапесні". Шмат твораў, зьмешчаных тут, ужо друкавалася. Між іншым, надрукаваны мой першы "салідны" верш "Мужыцкая доля", спраўлены Натальляй Арсеньневай.

Яшчэ шукаю пераважна ў галіне формы. Старое не падабаецца. У беларускай паэзіі (зусім зразумела) пераважалі сумныя, нявыразныя матывы і ідэалы. Новае пакаленьне, якое вырасла на грунце адраджэнскага ўздыму, нясе з сабой выразнасьць і бадзёрасьць. У навейшай беларускай паэзіі гучыць сонечны марш і для "новых" паэтаў настаў час скласьці "Новы Апокрыф". Гэтыя бадзёрыя, сонечныя матывы асабліва выразна гучаць у вершы "Гвардыя":

**Мы маладыя,**
**Мы ўдалыя,**
**Мы брацьця волі,**
**сонца й дня!**
**Хай льлюцца песьні**
**Аб шчасьці й долі —**
**І болей сьмеху,**
**больш жыцьця!**

(Працяг на 6-й стар.).

## НЯХАЙ ЖЫВЕ СВАБОДА...

ЦЭНАЎТВАРЭННЯ



**У першы дзень снежня Кабінет міністраў нашай ані суверэннай, ані ўладкаванай дзяржавы зноў пацвердзіў сваё непахіснае імкненне цвёрдай рукой праводзіць палітыку свабоды (цэнаўтварэння). З вуснаў прэм'ер-міністра М.Чыгіра зляцела "благая весць": урад рашыў вярнуцца з 1 снежня да тых цэнаў, якія былі замарожаны ў лістападзе, пасля вядомага "разносу", учыненага Прэзідэнтам. Калі выказвацца больш фігуральна і канкрэтна, то ў Беларусі на 50 працэнтаў падаражала малако, на 30 — хлеб і свініна, на 20 — ялавічына. А з 25 снежня ў 1,5—7 разоў павялічваецца кошт жыллёва-камунальных паслуг.**

**Самае цікавае ў гэтай сітуацыі, што ва ўсім вінаваты... народ. У часы Хрушчова—Брэжнева, калі павышаліся цэны на прадукты харчавання, афіцыйная статыстыка падлічвала, колькі на гэтым "выйграў" народ. Бо адначасова зніжаліся цэны на заляжалы штапель. Сёння ж зноў падлічваюць, колькі можна яшчэ дастаць "зайцоў" з народнай кішэні. Як заявіў прэм'ер-міністр, пасля вядомай каманды: "Цэны назад!" дадатковыя выплаты прывялі да таго, што на руках у насельніцтва сабралася неатаваранная грашовая маса ў памеры аж 103 мільярды беларускіх рублёў.**

**А што ж на гэта Прэзідэнт!**

**Па словах М.Чыгіра, "з Прэзідэнтам нашы мяркуемыя крокі ў галіне цэнаўтварэння былі ўзгоднены".**

**Што ж, няхай жыве сабода цэнаўтварэння! Але як выжыць людзям!**

**Ян ГІЛУЦЭВІЧ.**

**НА ЗДЫМКУ: "штурм" магазіна ў пярэдадзень увядзення новых цэнаў.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

ДА СТВАРЭННЯ ПЕРШАГА Ў РЭСПУБЛІЦЫ ХОСПІСА

## ЦЯРПІЦЕ НЕМАЧЫ БЯССІЛЬНЫХ

"Чалавек часам раптоўна смяротны", — абыякава заўважыў бессмяротны Воланд. Але ж нягледзячы на тое, што ўсё наша жыццё ад самага яго зараджэння — суцэльны ланцуг бясконцых выпадковасцей і толькі смерць — адзіная ў лёсе кожнага заканамернасць, прывыкнуць да яе ці абыякава паставіцца немагчыма. Напэўна, гэта таксама нейкі вышэйшы закон, які не мае патрэбы ні ў тлумачэнні, ні ў разгадцы. Існуе — і ўсё. Тым больш, што навокал шмат іншых пытанняў, на якія даваць адказы цалкам неабходна, асабліва калі, як Ганна Гарчакова, збіраешся стварыць першы ў рэспубліцы хоспіс. Для тых, каму пашчасціла не ведаць сэнсу гэтага слова, тлумачым, што так на Захадзе называюць установы, дзе бездападзейна хворым людзям дапамагаюць без болю і залішніх пакутаў пакінуць гэты свет, забяспечыўшы медыцынскі і чалавечы догляд.

Аднак за апошнія гады гэтая ідэя перацярпела змены, што і ўбачыла Ганна Рыгораўна, псіхолаг Рэспубліканскага гематалагічнага цэнтра, трапіўшы па службовых справах у Амерыку. Пачынаўся хоспіс менавіта так, якім сёння мы яго ўяўляем. Сённяшні ж хоспіс — гэта сістэма, і не толькі медыцынскай дапамогі, а і погляду, светаўспрымання, гэта ўжо своеасаблівая філасофія грамадства, якое зразумела, што калі ў сілу абставін далейшае жыццё немагчымае і чалавек хутка памрэ, трэба зрабіць так, каб астатні час ён пражыў па магчымасці паўнацэнна, у нармальных умовах і адышоў з гэтага свету годна і без пакут. І для гэтага зусім не абавязкова збіраць смяротна хворых у адно месца, значна лепей і зручней, калі добра навучаныя медыцынскія сёстры, святары і ўрачы аказваюць такую дапамогу дома. І заключаецца яна не ў тым, каб прыйсці, зрабіць абязбольваючы укол і пабегчы далей, да наступнага хворага. Медсястра хоспіса валодае гіпнозам, можа зрабіць масаж, зняць істэрыку, аказаць псіхалагічную дапамогу і яшчэ вельмі многае, каб родныя не пакутавалі ад таго, што на іх вачах гіне блізкі чалавек, а сам хворы не перажываў за тое, што стаў абузай для сваякоў. Дарэчы, пра блізкіх у сістэме амерыканскага хоспіса клапоцяцца не менш, чым пра самога хворага, бо члены сям'і перажываюць стрэс яшчэ больш, чым той, хто памірае, і пасля яго смерці праблема не знікае, а часам яшчэ больш абвастраецца. А ці ўсё неабходнае я зрабіў?

(Заканчэнне на 3-й стар.).

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*НА БУДАПЕШЦКАЙ СУСТРЭЧЫ*

## ГАРАНТЫІ ДЛЯ БЕЛАРУСІ

**У Будапешце на сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў краін -- удзельніц Нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе (НБСЕ) адбылося абмеркаванне, а потым і падпісанне Мемарандума аб гарантыях бяспекі Беларусі, Казахстана і Украіны. Кіраўнікі Злучаных Штатаў Амерыкі, Расійскай Федэрацыі, Злучанага Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі сваімі подпісамі змацавалі гэтыя дакументы, гарантуючы тром былым рэспублікам СССР і цяпер самастойным дзяржавам павагу іх незалежнасці, суверэнітэту, а таксама існуючых межаў. Пасля падпісання Мемарандума Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, які ўзначальваў афіцыйную дэлегацыю Рэспублікі Беларусь на будапешцкім саміце ў вярхах НБСЕ, меў пяціхвілінную размову з Прэзідэнтам ЗША Білам Клінтанам.**



**НА ЗДЫМКУ: Прэзідэнт Расіі Б. ЕЛЬЦЫН, Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА і Прэзідэнт Б. КЛІНТАН у час цырымоніі падпісання пратакола.**

*"Як Прэзідэнт Беларусі, я перажываю пачуццё велізарнай гордасці за тое, што мая рэспубліка стала першай у сусветнай гісторыі дзяржавай, якая добраахвотна, без усякіх умоў адмовілася ад магчымасці валодання ядзернай зброяй.*

*Па нашаму перакананню, гэты канкрэтны крок стаў важкім і значным элементам ва ўмацаванні даверу і бяспекі на кантыненце, у развіцці агульнаеўрапейскага працэсу ў цэлым. Лагічным вынікам такога падыходу стала дакладна зафіксаванае ў новай Канстытуцыі Беларусі наша імкненне стаць нейтральнай і бяз'ядзернай дзяржавай.*

*Мы перакананы, што нашы нашчадкі ўспомняць пра нас з удзячнасцю і ў іх падручніках гісторыі раздзел "Свет без ядзернай зброі" будзе пачынацца словамі: "Першай краінай, якая добраахвотна адмовілася ад ядзернай зброі, была Беларусь..."*

*Бадай, няма ў Еўропе іншага, акрамя нашага народа, якому на працягу многіх стагоддзяў прыйшлося б спазнаць у такой поўнай меры, што такое вайна. Яна з трагічнай перыядычнасцю пракочвалася праз тэрыторыю Беларусі, знішчаючы ўсё на сваім шляху. Асабліва страшныя вынікі другой сусветнай вайны. А пасля яе дзесяцігоддзі блокавага процістаяння таксама не маглі знікнуць бясследна для псіхалогіі і ўспрымання навакольнага свету пераважнай часткай насельніцтва рэспублікі. Не выпадкова таму ідэі расшырэння НАТО і перспектывы яе выхаду да нашых граніц выклікаюць такую вострую трывогу ў нашых людзей.*

*Мне вельмі цяжка, аднак, устрымацца ад канстатацыі таго, што нашы сапраўды каласальныя намаганні ў сферы ядзернага, а таксама звычайнага раззбраення не атрымалі адэкватнай падтрымкі з боку сусветнага супольніцтва. У цяперашняй вельмі складанай эканамічнай сітуацыі выкананне нашых некаторых абавязацельстваў можа аказацца за мяжой аб'ектыўных магчымасцей Беларусі".*

*(З выступлення Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКІ на сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў краін -- удзельніц Нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе 5 снежня 1994 года).*

*ВА ЎРАДАВЫХ КОЛАХ*

## АДСТАЎКА ВІКТАРА ГАНЧАРА

**"Я падтрымліваў Прэзідэнта, калі бачыў, што ён шчыра імкнуўся нешта зрабіць, падтрымліваў і тады, калі ён шчыра не ведаў, што рабіць, -- заявіў былы віцэ-прэм'ер Віктар Ганчар на прэс-канферэнцыі, наладжанай ім для журналістаў з нагоды яго адстаўкі. -- Але я не магу падтрымліваць Прэзідэнта, калі ён стаў зброяй у руках групы прайдзісветаў, авантурыстаў і дылетантаў, якія прафінансавалі яго выбарчую кампанію і, спекулюючы на гэтым, зрабілі его заложнікам сваёй палітыкі. Матэрыялы па фінансаванню выбарчай кампаніі знаходзяцца ў старшыні КДБ Ягорава, і справа яго гонару, як афіцэра і грамадзяніна, распарадзіцца імі -- у тым ліку інфармаваць парламент і грамадскасць".**

**Галоўная прычына адстаўкі Ганчара была сфармулявана ім як "незразумеласць прынцыпаў арганізацыі дзейнасці Кабінета Міністраў".**

*АДКРЫТЫМ ТЭКСТАМ*

## ГЕНЕРАЛЫ ПАТРАБУЮЦЬ

**Група генералаў і палкоўнікаў на чале з былым міністрам абароны Беларусі П.Казлоўскім звярнулася з адкрытым лістом да Прэзідэнта рэспублікі А.Лукашэнкі.**

**У нядаўнім мінулым кіраўнікі беларускай арміі, а цяпер рэпрэсаваныя па палітычных матывах, як яны называюць сябе, лічаць, што ў войсках стварылася абстаноўка трывогі і нестабільнасці, неабароненасці перад законам, што ў спалучэнні з эканамічнымі цяжкасцямі выклікала плынь жадаючых спыніць службу. Пад пагрозай знаходзіцца боегатоўнасць Узброеных Сіл і бяспека маладой беларускай дзяржавы.**

**"У гэтых умовах асабліва нецярпіма тое, гаворыцца ў лісце, што ў Ваша акружэнне пранiклі людзі малакампетэнтныя і амаральныя, якія спрабуюць рэалізаваць свае асабістыя амбіцыі праз адраджэнне "апрычніны", асуджанай і адхіленай дэмакратычнымі грамадствамі".**

**Генералы патрабуюць судовага разгляду ў адпаведнасці з законам па ўсіх абвінавачваннях, якія выстаўлены супраць іх. Яны просяць Прэзідэнта: "Майце сумленне і мужнасць спыніць вакханалію вакол Узброеных Сіл, Галоўнакамандуючым якіх Вы з'яўляецеся згодна з Канстытуцыяй."**

*ШОУ-РЭКЛАМА*



**Гандлёвая вуліца Брэста -- Савецкая -- папоўнілася яшчэ адным першакласным магазінам "Суксес". Тут пакупнікам прапаноўваюць элегантнае моднае адзенне, абутак, радыё- і тэлетэхніку, парфумерыю і іншыя тавары. Многія з іх паступаюць у магазін толькі ў некалькіх экземплярах.**

**А каб тавар разыходзіўся лепш, тут паклапаціліся аб рэкламе: ля ўваходу ў магазін арганізавалі 30-хвілінныя шоу-паказы вырабаў. У такія дні выручка магазіна практычна падвойвалася.**

**А праводзіліся шоу з удзелам манекеншчыц рэкламнага агенцтва Сашы Варламава, якое рыхтуецца цяпер да правядзення ІІ тура конкурсу "Супермадэль Беларусі".**

**НА ЗДЫМКУ: у час шоу-паказу вырабаў, што прапаноўваюцца магазінам.**

*З ПРЭЗІДЭНЦКАЙ КАНЦЫЛЯРЫІ*

## ПРАДСТАЎЛЯЦЬ ІНТАРЭСЫ ДЗЯРЖАВЫ

**Указамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнкі Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Французскай Рэспубліцы Ніна Мазай прызначана Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Іспаніі і Партугальскай Рэспубліцы па сумяшчальніцтву, а Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Злучаных Штатах Амерыкі Сяргей Мартынаў -- Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Мексіканскіх Злучаных Штатах па сумяшчальніцтву.**

*ДУМКА ПРАДПРЫЕМЦАЎ*

## СУМНЕННІ І РЭКАМЕНДАЦЫІ

**Па выніках апытання, праведзенага Цэнтрам даследаванняў будучыні, стала ясна, што амаль палавіна прадпрымальнікаў сумняваецца, што новая выканаўчая ўлада зможа забяспечыць сур'ёзны ўзровень палітыка-прававых гарантый для развіцця рыначнай эканомікі. Большасць з іх мяркуе, што склад новага ўрада неаднародны па ўзроўню прафесіяналізму.**

**На думку прадпрыемцаў рэспублікі, урад выбера стратэгію тармажэння рэформ "да лепшых часоў". У выпадку выбару прыватызацыі дзелавы свет рэкамендуе вызначыць яе на падставе паступовага продажу дзяржаўнай маёмасці. Што тычыцца ацэнкі перспектыў развіцця фондавага рынку, 40 працэнтаў рэспандэнтаў лічаць іх хутчэй неспрыяльнымі і больш 20 працэнтаў не бачаць іх у развіцці. Не вераць прадпрымальнікі і ў тое, што можна за шэсць месяцаў спыніць спад вытворчасці і знізіць тэмпы інфляцыі да 10 працэнтаў у месяц.**

*РАШЭННЕ ЕБРР*

## ПАДТРЫМКА БІЗНЕСУ

**Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця выдзеліў Рэспубліцы Беларусь 30 мільёнаў долараў для развіцця сярэдняга і малога бізнесу. Гэтыя сродкі па рашэнню ЕБРР змогуць атрымаць прыватныя прадпрыемствы з колькасцю працуючых да 500 чалавек. Прычым сума аднаго крэдыту можа складаць ад 50 тысяч да 2 мільёнаў долараў, а прадастаўляецца ён максімум пад 15 працэнтаў гадавых.**

**Атрымальнік крэдыту павінен забяспечыць не менш 30 працэнтаў фінансавання праекта ўласнымі сродкамі. Пры гэтым перавага будзе аддавацца праектам у галіне вытворчасці і аказання паслуг з выкарыстаннем мясцовай сыравіны, гарантаванай акупнасцю і экспартным патэнцыялам.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

КАЛГАСЫ і саўгасы Быхаўскага раёна "скінуліся" і купілі для раённай бальніцы на 5 мільёнаў рублёў лекаў. А ў Кіраўскім раёне мясцовыя гаспадаркі "забяспечылі" сваю раённую бальніцу бульбай аж да новага ўраджаю. Што рабіць, калі дзяржаве ўтрымліваць бальніцы ўжо не па сіле.

ЖЫХАРАМ Жлобінскага раёна цяпер не трэба "раскашэльвацца" на пісьмы і білеты на аўтобус. Улічваючы, што і тое, і другое -- не танная справа, раённыя ўлады ўвялі "гарачы" тэлефон -- 05. Па гэтаму нумару з любой вёскі ці сельсавета можна бясплатна атрымаць неабходныя звесткі, якія ўваходзяць у кампетэнцыю мясцовай улады. Не трэба перціся аж у Жлобін і траціць рубель, якога на хлеб нестае.

ТОЛЬКІ на адной з вуліц Баранавіч больш за 150 чалавек захварэлі на дызентэрыю. Як сцвярджаюць дактары, прычына тут банальная -- "брудныя рукі". А памыць іх перад ядой не кожны можа. Мыла цяпер толькі для багатых: такая высокая на яго цана.

КАБ не застацца зусім без рыбы, Браслаўскі рыбзавод заняўся штучным зарыбленнем азёр усяго раёна. У сваім пітомніку завод разводзіць акуня, карпа, карася. Ужо 400 тысяч асобін карася выпушчана ў чатыры найбольш буйныя возеры Браслаўшчыны.

ЭНЕРГЕТЫЧНЫ крызіс прымусіў успомніць пра такі традыцыйны від транспарту, як калёсы. Попыт на іх расце. Відаць, таму ў Гомелі, акрамя райаграпрамтэхнікі, наважыліся выпускаць такую патрэбную прадукцыю і на "Гомсельмашы". Тут ужо зроблены першыя 100 калёс на гумавым ходу.

ПАСОЛ Ватыкана ў Беларусі папскі нунцый архіепіскап Агасціна Маркета наведаў Віцебск. Перад вернікамі ў касцёле святой Барбары ён выступіў з казаннем і разам з ксяндзом Янушам адправіў імшу. Пасля богаслужэння моладзь парафіі паказала спектакль, прысвечаны жыццю і пакутам святой Барбары.

УНІКАЛЬНАЕ адкрыццё зрабілі беларускія геолагі. На Гомельшчыне на плошчы звыш 36 тысяч квадратных кіламетраў знойдзены падземныя запасы гарачых вод. Паводле падлікаў, іх цалкам хопіць, каб ацяпліць жылыя дамы і прамысловыя прадпрыемствы Гомеля, Рэчыцы і Светлагорска.

## ПАВОЛІ АЧУНЬВАЕМ

# ДА СТАБРОЎСКІХ — ПА ЗАКЛІКУ СЭРЦА

Іосіф Іосіфавіч Стаброўскі -- слынны сын зямлі слонімскай. Палкоўнік царскай арміі, археолаг, краязнаўца, гісторык. На базе ўласнаручна сабранай археалагічнай калекцыі стварыў у Слоніме гісторыка-краязнаўчы музей (1929 год), будынак якога быў узведзены таксама ягоным коштам.

Пасля прыходу "другіх Саветаў" І.Стаброўскі ў 1948 годзе быў вызвалены ад працы ў музеі, "як неадпавядаючы па свайму ідэалагічнаму светапогляду", і памёр на 99-м годзе жыцця ў 1968 годзе ў вялікай беднасці і нястачы.

І калі пры жыцці І.Стаброўскага, і адразу пасля смерці ў мясцовай і нават цэнтральнай прэсе не-не ды друкаваліся невялічкія матэрыялы пра яго (усе яны пачыналіся з 1929 года, а амаль 60 гадоў жыцця выпадалі), то з 1972 года на працягу амаль 20-ці гадоў -- поўнае маўчанне.

Праўда, яшчэ гадоў 15 таму пра І.Стаброўскага пачынала пісаць навуковую працу Буцько Лідзія -- тады студэнтка універсітэта, а зараз -- супрацоўніца цэнтральнай бібліятэкі горада Слоніма. Яна сустракалася з ягонай другой жонкай (першая жонка і двое дзяцей памерлі), запісала з яе слоў шмат цікавых фактаў, але з-за недахопу дакументальных матэрыялаў пра навуковую дзейнасць Стаброўскага вымушана была адмовіцца ад задуманага.

Ужо ў 90-я гады даследаваннем жыцця і дзейнасці І.Стаброўскага заняўся і нямала зрабіў дзеля гэтага слонімскі літаратар Сяргей Чыгрын.

Іосіф Стаброўскі -- вайсковец, чалавек гонару і годнасці. Патрыёт роднай зямлі.

І таму ў верасні 1994 года Слонімская харугва Беларускага згуртавання вайскоўцаў (БЗВ) вырашыла:

-- надаць харугве імя І.Стаброўскга;

-- на Дзяды прывесці ў парадак ягоную магілу.

І вось 1 лістапада аўтобус, арандаваны харугвай БЗВ, выправіўся на Орлавіцкія могілкі. Магіла Стаброўскіх (уся сям'я пахавана разам, пад адным помнікам, які яшчэ пры жыцці зрабіў сам Стаброўскі) была ў такім стане, што нават цяжка перадаць. Крыжы павалены. Аднаго зусім няма. Замест магіл -- роўнае месца, зараслае травой.

Успомнілася дырэктар цэнтральнай бібліятэкі Слоніма Міско Рыма, якая напярэдадні прывозіла сюды рэжысёра беларускага тэлебачання. З болем у душы і з слязамі на вачах яна сказала: "Сорамна, вельмі сорамна". І сапраўды было сорамна бачыць усё гэта пасля столькіх высокіх слоў пра Стаброўскага апошнім часам, пасля навуковай канферэнцыі (верасень 1994 года), прысвечанай 65-м угодкам заснавання Стаброўскім музея. Было сорамна, што мы сваёй бяздзейнасцю дазволілі такое. І пэўна ж не варта ківаць на ўлады: маўляў, паганыя і нічога не робяць. А мы -- добрыя? Дзе былі? Чаму не рабілі?

Амаль дзве гадзіны высякалі хмызнякі, адчышчалі помнік і вакол яго вядомы краязнаўца, сябра БЗВ Васіль Супрун, літаратар Сяргей Чыгрын, дырэктар Парэцкай школы Мікалай Барысік, супрацоўнік "Слонімскага весніка" Мікола Супрун, журналіст Віктар Валадашчук і аўтар гэтых радкоў.

Дзякуй Богу, што на хутары бліз могілак яшчэ жыве старая бабуля, Курыловіч Вольга, пра што сябры БЗВ даведаліся напярэдадні ў сельскім савеце.

Муж яе, Піліп, з 6 гадоў гадаваўся ў Стаброўскага. Разам са Стаброўскім тачыў камяні на помнік. У іхняй жа хаце спраўляліся хаўтуры. Па нашай просьбе Вольга Кузьмінічна прыйшла на могілкі і паказала, дзе і чые размешчаны магілкі.

Калі вярталіся назад, прыгадаліся словы С.Чыгрына: "Вось такая занядбаная і ўся наша Беларусь". І сапраўды, нездарма ж кажуць: хочаш даведацца пра краіну і яе насельнікаў -- схадзі на могілкі.

Але ж цешыць думка, што хоць паволі, а ўсё ж ачуньваем.

Успамінаем дзядоў, такіх людзей, як І.Стаброўскі, цікавімся ўласным радаводам. А гэта ўжо добры знак.

Упэўнены, што на будучы год да Стаброўскіх прыйдзе не дзесятак чалавек, а значна больш і не адзін раз. І прыйдуць яны не дзеля афіцыйнага мерапрыемства, а як і цяпер -- па закліку сэрца.

**Міхась ВАРАНЕЦ.**



# ЦЯРПІЦЕ НЕМАЧЫ БЯССІЛЬНЫХ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

А можа, былі яшчэ нейкія магчымасці дапамагчы, а я іх не выкарыстаў? -- вельмі часта гэтыя пытанні ператвараюцца ў жах і праклён для тых, хто застаўся...

Асабліва балюча ўспрымаюць дзеці смерць брата ці сястры. Ганна Рыгораўна расказвала, як у Амерыцы была сведкай таго, калі ў хоспіс у стане шоку пазваніла маці: у яе памерла дачка. Але жанчыну ўразіла не столькі смерць дзяўчынкі, якая да гэтага безнадзейна хварэла амаль дзесяць год, а рэакцыя яе сястры: у дзень пахавання яна наладзіла свята. "Я ненавіджу яе, -- разгублена гаварыла маці,-- я не магу далей з ёю жыць"... Напэўна, пройдзе першапачатковы шок, напэўна, прафесійныя псіхолагі растлумачаць няшчаснай звар'яцелай ад гора жанчыне, што здаровая дзяўчынка спачатку шкадавала хворую сястру, потым усё часцей і часцей пачала задаваць сабе пытанне: "А чаму ўсё і заўсёды ёй? Калі ўспомняць пра мяне?" Гадамі дзіця было на другім месцы і не атрымлівала той любові, якую чакала, якая была ёй так патрэбна. Адсюль -- і ўчынак, жахлівы, але ў нечым і заканамерны...

Мне бясконца шкада гэтую амерыканскую жанчыну. І мне бясконца шкада нашых маціярок, якім пасля смерці адзінага дзіцяці не толькі з псіхолагам -- часам увогуле няма з кім падзяліць сваё гора. Бо да трагічнага фіналу яны часта прыходзяць у поўнай адзіноце. Хвароба ў нашых умовах -- цяжкае выпрабаванне. Двухпакаёвая "хрушчоба", у якой існуюць падчас некалькі сем'яў, дрэнна прыстасавана не толькі для жыцця, але і для смерці. Не больш утульна і ў бальніцы, дзе многім даводзіцца праводзіць апошнія дні. І ніяк не павінны дзеці, у якіх ёсць шанц выжыць, быць разам з тымі, хто хутка пойдзе ў іншы свет, бо адразу з'яўляецца страх і няўпэўненасць, супраць якіх лекаў не існуе. Не, не трэба думаць, што яны да апошняга знаходзяцца побач. Але ж яны пра ўсё здагадваюцца, і ўсе ўсё ведаюць. Адных дзяцей гэтая тэма цікавіць, і яны самі задаюць пытанні і чакаюць адказаў. А другія паводзяць сябе зусім, як наша грамадства: пакуль бяда не закранула, лепш пра яе не ведаць і ўвогуле зрабіць выгляд, што яе не існуе. Мы не гаворым пра смерць і лічым за лепшае не абмяркоўваць гэтую тэму ўвогуле. Чаму? Можа, таму, што зачыненасць і стрыманасць -- нацыянальныя рысы славянскай душы? Але менавіта мы, славяне, бывае, выварочваем гэтую душу так, што ўвесь свет здзіўляецца і губляецца перад яе неабдымнай шырынёй і шчырасцю. Да таго ж, успомнім нашых бабуль і дзядуль, якія спакойна і разважліва рыхтаваліся да смерці, збіралі адзенне і грошы на пахаванне і гаварылі пра яе, як пра справу будзённую і непазбежную. Дык можа такое маўчанне вакол гэтай тэмы — калі і традыцыя, дык вельмі нядаўняя, створаная за апошнія семдзесят год грамадствам, якое было зарыентавана толькі на здаровых, моцных, працаздольных людзей? Дарэчы, цяжка чакаць паважлівага стаўлення да смерці ў краіне, дзе законам быў расстрэл без суда і следства і дзе тысячы сем'яў не ведаюць, дзе пахаваны іх сваякі. Цікавая дэталь: амерыканцы ведаюць (ці хаця б хочуць ведаць) і ўказваюць свае страты ва ўсіх войнах з дакладнасцю да аднаго (!) чалавека. Мы ж дагэтуль не надрукавалі канчатковай лічбы загінуўшых у другой сусветнай вайне, а пра ахвяры голаду ў Паволжы пішам: "Загінула ад 5 да 7 мільёнаў чалавек". Два мільёны туды, два сюды, што там...

Адыграў сваю ролю ў стаўленні да гэтай тэмы і шматгадовы глабальны атэізм, што непазбежна выклікае страх смерці. І гэта -- у народа, які ў саму этымалогію слова, якім вызначаўся апошні абрад, ужо заклаў веру ў бессмяротнасць душы і будучае ўваскрашэнне. Цела наша не закопваюць, не ў зямлю кладуць, яго хаваюць, захоўваюць да таго часу, калі яно спатрэбіцца нятленнай душы. Навошта я аб усім гэтым? І якія адносіны гэта мае да тэмы артыкула? На мой погляд, непасрэдныя, бо стаўленне да смерці ў рэшце рэшт вызначае стаўленне да жыцця. А хоспіс, між іншым, патрэбны не толькі і не столькі для тых, хто памірае, колькі для тых, хто застаецца жыць.

Зараз Ганне Рыгораўне даводзіцца чуць самыя розныя думкі наконт яе ініцыятывы. Напрыклад, аб тым, што гэта ў Амерыцы, краіне багатай, можна дазволіць сабе клапаціцца пра тых, каго ўсё роўна хутка не стане. А мы -- жабракі, нам трэба думаць пра жывых, і хоспіс для нас -- недазвольная раскоша. Але ж Ганна Рыгораўна ўпэўнена, што хоспіс -- гэта своеасаблівы выратавальны круг, які можа дапамагчы ўсім нам, бо ён дасць магчымасць паглядзець на сябе і свае праблемы збоку, перастаць сумаваць аб тым, чаго няма, і пачаць радавацца таму, што маеш. Да таго ж, калі чалавек пачынае думаць пра іншых больш, чым пра сябе, уласныя праблемы адыходзяць на другі план. І нават самае кароткае наведванне таго ж гематалагічнага цэнтра тым, хто лічыць сябе самым няшчасным на свеце, здольна перамяніць не толькі настрой, але і ўвогуле стаўленне да жыцця. І, глядзіш, зразумее тады такі скептык, што жабрацтва матэрыяльнае зусім не варта атаясамліваць з жабрацтвам духоўным. І хто яго ведае, можа, зразумеўшы гэта, чалавек захоча дапамагчы тым, каму горш, чым яму. Як? Ды проста пасядзіць побач, патрымае за руку. Для гэтага зусім не абавязкова мець медыцынскую адукацыю. А калі Ганна Рыгораўна пыталася ў Амерыцы ў безнадзейна хворых, што для іх у дапамозе, якую можа аказаць хоспіс, самае галоўнае, яны адказвалі: тое, што нехта ёсць побач, можа паспачуваць. Увогуле адчуванне, што ты некаму яшчэ патрэбны. І адбываецца дзіўная і важная рэч, своеасаблівая ўзаематэрапія: таму, хто памірае, лягчэй, бо ён -- не адзін, а той, хто дапамагае, адчувае, што ён некаму патрэбны, што жыццё яго набывае новы сэнс. І тады смерць аднаго чалавека становіцца моцным імпульсам для жыцця другога. Вялікі рускі філосаф Салаўёў пісаў: "Выратуецца толькі той, хто выратоўвае, -- вось формула прагрэсу. Іншага няма і не будзе".

У нас няма іншага выйсця, засталося самае малое -- зразумець гэта. Нездарма многія амерыканскія маці пасля смерці сваіх дзяцей ідуць працаваць у хоспісы. Як жа так, узнікае пытанне, прайсці праз самае страшнае, што можа выпасці на долю чалавека, і па сваёй волі перажываць гэта зноў і зноў? Так. Але ж, страціўшы мэту, сэнс існавання і само жаданне жыць, жанчына знаходзіць у сабе сілы зразумець, што калі нават ужо ніколі не будзе шчаслівай сама, яна зможа яшчэ дапамагчы прайсці гэты жахлівы крыжовы шлях тым, каго ён яшчэ чакае. І праз гэта набываецца новы сэнс жыцця, бо "выратуецца толькі той, хто ратуе". Увогуле, пытанне аб тым, хто будзе працаваць у хоспісе, варта таго, каб мы яшчэ раз звярнуліся да амерыканскага вопыту.

Амерыканцаў Ганна Рыгораўна, як, дарэчы, многія з нас, уяўляла сабе як дзелавых людзей, якія на першае месца ставяць свой бізнес, а да жыцця падыходзяць прагматычна і з цвярозым разлікам. У хоспісе ёй давялося сутыкнуцца з зусім іншымі людзьмі, у якіх былі вельмі сціплыя заробкі і сапраўдная адданасць гэтай справе. Цяжкія ўмовы працы і невысокія прыбыткі робяць своеасаблівы натуральны адбор, і застаюцца там толькі тыя, для каго дапамога паміраючым і смяротна хворым стала справай усяго жыцця. Як ні дзіўна гэта падасца многім з нас, прыходзяць у хоспіс працаваць і тыя, каму іх сацыяльнае і фінансавае становішча дазваляе ўвогуле не працаваць. Здаецца, сядзі сабе спакойна дома, весяліся, атрымлівай задавальненне ад жыцця, навошта табе залішнія адмоўныя эмоцыі? А яны, так званыя валанцёры, часта зусім маладыя людзі, лічаць за гонар займацца гэтай справай. Ці будзе так і ў нас? Ганна Рыгораўна ўпэўнена, што калі сістэма хоспіса пачне дзейнічаць, жадаючыя там працаваць абавязкова знойдуцца, бо мы -- не горшыя за тых жа амерыканцаў, проста ў нас страчана традыцыя рабіць дабро. Доўгія гады любую, нават самую добрую справу ператваралі ў святы абавязак ці нуднае мерапрыемства. А, як вядома, усё, што робіцца пад прымусам, адразу ж становіцца запраграмаванай сумнай і надакучлівай працай, і добрае пачынанне хутка памірае. Спадзяецца Ганна Рыгораўна і на дапамогу веруючых, бо, як сказаў апостал Павел, "мы, моцныя, павінны цярпець немачы бяссільных і не сабе дагаджаць". Да таго ж, у Мінску ўжо зараз існуюць і дзейнічаюць тры міжнародныя валанцёрскія арганізацыі, так што, калі сваіх добраахвотнікаў не знойдзецца, дык замежныя дапамогуць. Пытанняў шмат, і часам самых нечаканых. Ну, напрыклад, як называць тых жа памочнікаў? Валанцёрамі — як гэта прынята ва ўсім свеце, ці перавесці на нашу мову і атрымаць слова "добраахвотнік", якое без іроніі сёння амаль і не вымаўляецца? Між іншым, хоспіс -- таксама не наша слова, а чаплінг -- не проста святар, а яшчэ і псіхолаг, які лечыць душу чалавека незалежна ад таго, да якой канфесіі той адносіцца. І што рабіць? Шукаць свае вызначэнні ці згадзіцца з замежнымі? Перакладаць? Але ж гэта ўжо не проста словы, гэта паняцці, за якімі стаяць вопыт, навыкі і традыцыі цэлага руху. Што рабіць, не ведаю, але дакладна ведаю, чаго рабіць не трэба: давайце не будзем распачынаць доўгую і бессэнсоўную дыскусію на гэту тэму, а сілы і сродкі, якія можам патраціць на спрэчкі аб словах і фармулёўках, накіруем лепш на справу дапамогі людзям. І тады непрыкметна і неяк самі сабою знойдуцца і айчынныя словы, і прыдатныя фармулёўкі.

А пакуль што маладая, прыгожая і мужная жанчына Ганна Гарчакова і яе аднадумцы працуюць над стварэннем першага ў Беларусі хоспіса. Ім не хапае вельмі многага, нават такой дробязі, як 50 метраў тэлефоннага проваду, каб паставіць у пакоі тэлефон. Але ж яны вераць у поспех сваёй справы, бо незалежна ад вялікага філосафа Салаўёва даўно зразумелі, што выратаваць сваю душу можна толькі, змагаючыся за іншыя, і што заклікі да любові, міласэрнасці, спагады да бліжняга не проста прыгожыя словы, а канкрэтная праграма выжывання грамадства. Справа за малым -- каб гэта зразумела яшчэ і само грамадства.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

БЕЗ ІДЭАЛІЗАЦЫІ І АЧАРНЕННЯ

# ЯК СЛУЧАКІ БАРАНІЛІ СВОЙ ДОМ

**Час быў цяжкі і складаны. Падзеі абвальваліся адна за другою. Першая сусветная, кастрычнік, грамадзянская вайна, акупацыі: нямецкая, польская, бальшавіцкая. Паны і камуністы мяняліся па чарзе.**

**Дзе і як шукаць выйсце! Ва ўласным дзяржаўным доме трэба ладзіць сваё жыццё. Да такой высновы прыйшлі случакі. І паўсталі, каб абараніць гэты дом, які, на жаль, не паспелі пабудаваць. Тым не менш, гісторыя Слуцкага паўстання сведчыць аб імкненні беларусаў да самастойнай дэмакратычнай дзяржавы. Дайсці да свабоды і дабрабыту, не маючы ўласнай дзяржавы, немагчыма. Яны гэта добра ўсвядомілі.**

## ЧАМУ МЕНАВІТА Ў СЛУЦКУ?

Слуцкае паўстанне -- своеасаблівая кульмінацыя сялянскай антыбальшавіцкай вайны на Беларусі. На шляху вызваленчага руху гэта падзея была найбольш масавай, палітычна прадстаўнічай, арганізацыйна і ваенна падрыхтаванай. Не выпадкова, што гэтая славутая падзея адбылася менавіта ў Слуцкім павеце, краі заможных і працавітых людзей. Спрадвеку яны імкнуліся да адукацыі, культуры, справядлівага ладу жыцця. Іх дзеці вучыліся ў гімназіі ці рэальнай вучэльні ў Слуцку, ехалі за ведамі ў настаўніцкую семінарыю ў Нясвіж і іншыя гарады і ўстановы. Моладзь цягнулася да роднай мовы, цікавілася нацыянальнай гісторыяй. Таму заўсёды шматлюднымі былі мерапрыемствы культурна-асветніцкага таварыства "Папараць-кветка". Яно ўзнікла ў Слуцку ў 1919 годзе, арганізавалі і спачатку кіравалі ім Ф.Шантыр і Ракуцько. Напрыканцы 1919 года кіраўніком "Папараць-кветкі" быў абраны Андрэй Бараноўскі, вядомы эсэр, чалавек, адданы справе беларускага асветніцтва, вельмі актыўны, які меў здольнасці добрага арганізатара. Слуцкія вучні часцяком збіраліся разам, чыталі і абмяркоўвалі творы беларускай літаратуры, авалодвалі граматыкай роднай мовы, спявалі песні свайго народа, ставілі спектаклі. З лекцыямі аб самабытнасці беларускай мовы і культуры, па асобных пытаннях гісторыі і дзяржаўнасці Беларусі перад членамі гуртка выступалі вядомыя грамадскія і палітычныя дзеячы: Станіслаў Петрашкевіч, Іван Бржазоўскі, Марк Асвяцімскі і іншыя. Вялікую ўвагу дзейнасці гэтай маладзёжнай арганізацыі надавалі беларускія эсэры. Рэдка калі абмінаў пасяджэнні гуртка старшыня слуцкай ячэйкі БПС-Р Марк Асвяцімскі. Хорам "Папараць-кветкі" кіраваў вядомы эсэр, член Мінскай арганізацыі Васіль Русак. Загадчыкам бібліятэкі быў таксама прыхільнік эсэраўскай партыі Пётр Фёдараў. Яго турботамі была сабрана бібліятэка беларускіх дарэвалюцыйных выданняў, больш за 500 кніг. Нават два нумары часопіса "Наша каляіна" выдалі пад эгідай ЦК БПС-Р, але як орган "Папараць-кветкі". Арганізаваў выданне Андрэй Бараноўскі, друкаваўся часопіс у Мінску. Дзякуючы свайму незалежніцкаму зместу, часопіс меў поспех сярод слуцкай моладзі. На жаль, сродкаў не хапіла, выданне прыпынілася.

Галоўныя намаганні "Папараць-кветкі" былі накіраваны на выхаванне нацыянальнай свядомасці беларускай моладзі. Аб тым, што на гэтым шляху арганізацыя дасягнула пэўных поспехаў, сведчыць факт шырокага ўдзелу слуцкай моладзі ў паўстанні.

Культурна-асветніцкі гурток "Зарніца" з аналагічнымі мэтамі існаваў у той жа час у вёсцы Старыца. Яго членамі былі будучыя актыўныя ўдзельнікі паўстання, арганізатары беларускага войска Пётр Бабарэка, Іван Русаковіч, Пётр Зянюк, члены мясцовай ячэйкі эсэраў сёстры Марыя і Людміла Стагановіч, Аляксандр і Іван Каўпакі. Партызаны антыбальшавіцкага аддзела, які ў 1921--1922 гадах аперыраваў у Пукаўскай воласці, Аляксандр Русаковіч, Язэп Клюйко, Адам Чачко, Рымашэўскі таксамаа актыўна працавалі ў "Зарніцы".

Вялікая роля ў выхаванні пачуццяў нацыянальнай самасвядомасці і патрыятызму належала павятовым настаўніцкім курсам, якія падчас польскай акупацыі арганізаваў слуцкі Нацыянальны камітэт. Да таго моманту, як у Слуцк з'ехаліся каля 200 настаўнікаў пачатковых школ, Нацыянальны камітэт зрабіў велізарную падрыхтоўчую працу. Была падлічана колькасць беларускіх школ у павеце. Вялікімі намаганнямі дабіліся дазволу польскіх улад адкрыць новыя школы на месцы рускіх. Сярод настаўнікаў правялі шырокую растлумачальную работу аб неабходнасці і своечасовасці адукацыі на роднай мове. Сродкі на арганізацыю курсаў атрымалі з Мінска ад Беларускага нацыянальнага камітэта. Праз польскага школьнага інспектара настаўнікаў выклікалі ў Слуцк. Андрэю Бараноўскаму даручылі забяспечыць курсы памяшканнем, курсантаў -- жыллём і харчаваннем. ЦК БПС-Р прыслаў лектараў, беларускую мову і літаратуру чытаў Янка Станкевіч, гісторыю Беларусі -- Усевалад Ігнатоўскі, геаграфію -- Мікалай Азбукін. Некалькі лекцый па мовазнаўству прачытаў Браніслаў Тарашкевіч.

Шырокую прапаганду і агітацыю сваёй праграмы на курсах вялі эсэры. У выніку ў шэрагу вёсак былі створаны новыя арганізацыі. На гэтых жа курсах з мэтай аб'яднання настаўнікаў было ўтворана "Настаўніцкае кааператыўнае таварыства беларускай кнігі". Быў напісаны і зарэгістраваны статут таварыства, сабраны некаторыя сродкі. Члены таварыства згодна са статутам павінны былі папулярызаваць і распаўсюджваць беларускую кнігу, выхоўваць любоў да роднага слова.

Асветніцка-выхаваўчая праца — гэта толькі адзін бок шматграннай дзейнасці Нацыянальнага камітэта, які быў утвораны яшчэ ў 1918 годзе. Праўда, з вясны наступнага года нейкі час на Случчыне панаваў рэўком, але нядоўга. Дзейнасць Нацыянальнага камітэта была аднаўлена падчас другой польскай акупацыі намаганнямі чатырох яго членаў -- П.Жаўрыда (старшыня), У.Пракулевіча, У.Дубіны (сакратар), пазней шляхам каап'тацыі ўвялі А.Смольскага, былога слуцкага казначэя.

**Ніна СТУЖЫНСКАЯ.**

(Працяг будзе).





**Працягваючы традыцыі апошніх дзесяцігоддзяў, Чырвоны касцёл і пасля перадачы яго веруючым застаецца культурным цэнтрам Мінска. Нядаўна тут адбыўся дабрачынны канцэрт хору "Менка", які створаны пры Дзяржаўным музеі народнай архітэктуры і быту. Пад скляпеннямі касцёла гучала духоўная музыка і песнапенні. У складзе "Менкі" -- выпускнікі і навучэнцы Мінскага вучылішча мастацтваў.**

**НА ЗДЫМКАХ: у час канцэрта хору "Менка" ў Чырвоным касцёле.**

ПОЛЬСКІ ВУЧОНЫ АБ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ ЗМЕНАХ НА БЕЛАРУСІ

# ШЛЯХ ДАЎЖЫНЁЙ СТО ГАДОЎ

У Польшчы выйшла кніга пад назвай "Нацыянальныя змены на Беларусі". У публікацыі няма даты выдання, але мяркуючы па выкарыстанай літаратуры, пададзенай у бібліяграфіі, гэта хутчэй за ўсё 1994 год.

"Вызначэнне беларускага этнічнага абшару, а таксама дакладнае акрэсленне колькасці беларусаў да І сусветнай вайны, у міжваенны перыяд, так як і ў найноўшыя часы належыць да найбольш істотных праблем у галіне еўрапейскіх даследаванняў нацыянальнасцяў". Такімі словамі пачынае сваю кнігу аб гістарычных нацыянальных зменах на Беларусі Пётр Эберхарт, прафесар Інстытута геаграфіі Польскай акадэміі навук. Варшаўскае выдавецтва "Editions Spotkania", у якім выйшла кніга, рэкамендуе гэтую працу ў якасці першай пасля 1945 года публікацыі, што аб'ектыўна прадстаўляе праблему нацыянальных і канфесійных перамен на Беларусі.

Каб пазбегнуць цяжкасцей, аб якіх аўтар піша ва "Уступе", ён прымае метад даследавання, адпраўным пунктам якога з'яўляецца Беларусь у яе сённяшніх палітычных межах, незалежна ад разгляданага гістарычнага перыяду. Гэта падаецца цалкам сэнсоўным падыходам, калі ўлічваць палітычныя і гістарычныя рэаліі. Галоўная ж тэма даследавання -- колькасныя змены насельніцтва Беларусі, яго развіццё і размяшчэнне, якасныя трансфармацыі жыхарства краіны, што з гэтым звязаны, як саміх беларусаў, так і асноўных нацыянальных груп: палякаў, рускіх, украінцаў, яўрэяў. У сваёй працы аўтар не ўражвае новымі фактамі і статыстычнымі данымі. Ён карыстаецца вядомымі ўжо лічбамі перапісаў насельніцтва: расійскіх, нямецкіх, польскіх, савецкіх. Але несумненная ягоная заслуга ў сістэматызацыі, глыбінным аналізе і ацэнцы гэтых даных на фоне гістарычных і палітычна-нацыянальных пераменаў эпохі ці пасобных, канкрэтных перыядаў. Перыядаў такіх вылучае аўтар адзінаццаць, пачынаючы ад рубяжа XIX—XX стагоддзяў аж да 1989 года.

Тым не менш гэтая праца не лекцыя статыстыкі. Апроч цікавых супастаўленняў, параўнанняў і ацэнак змяшчае яна таксама шырэйшыя дыгрэсіі і высновы, палемічныя фрагменты, як, напрыклад, з Аркадзем Смолічам. Дарэчы, некаторыя фрагменты тэксту і спасылкі сведчаць аб добрым веданні аўтарам беларускай спецыяльнай і перыядычнай літаратуры. Закранае ён таксама пытанні беларусізацыі (аўтахтанізацыі), становішча польскай меншасці ў БССР і палітыкі ўлад міжваеннай Польшчы ў адносінах да Заходняй Беларусі. Здаецца, ён ставіць перад сабой карпатлівую задачу пераадолення заблытанасці суадносін нацыянальнасць -- веравызнанне ў супольнасці з не зусім скрысталізаванай свядомасцю. Менавіта свядомасці беларусаў у кнізе прысвечана шмат месца. Практычна ў кожным з яе раздзелаў аўтар звяртаецца да гэтага пытання, каб у астатнім спыніцца на ім шырэй і спрабаваць даць прагноз развіцця сітуацыі.

Аб сур'ёзным падыходзе аўтара да тэмы сведчыць можа ягоная спроба падліку насельніцтва Беларусі (у яе сённяшніх межах) у 1931 годзе, г.зн. у перыяд расчлянення краіны. Гэта ўскладняецца і тым, што існавала пяцігадовае храналагічнае разыходжанне ў перапісах насельніцтва на Савецкай Беларусі (1926 год) і Беларусі Заходняй (1931 год). Паводле падлікаў П.Эберхарта, аб'яднаная Беларусь у 1931 годзе, непасрэдна перад усеагульнай калектывізацыяй, катастрофай голаду і масавымі рэпрэсіямі, мелася б налічваць больш за 8,5 мільёна жыхароў, у тым ліку каля 72 працэнтаў беларусаў. Варта дадаць, што непасрэдныя і ўскосныя страты насельніцтва БССР, выкліканыя калектывізацыяй, голадам і бальшавіцкім тэрорам у 1931--1937 гадах, паводле падлікаў аўтара, складаюць 600 тысяч асоб.

Адзначаючы, што асноўная статыстычная ацэнка дэмаграфічна-нацыянальных змен на Беларусі ў перыяд другой сусветнай вайны патрабуе асобнага даследавання, аўтар падвяргае сумневу лічбу 2,5 мільёна беларусаў, якія нібыта страцілі жыццё ў той перыяд. На ягоную думку, тут трэба ўлічваць эвакуацыю на Усход ад нямецкага наступу, некалькі сотняў тысяч вывезеных на працы ў Нямеччыну, рэпатрыяцыю польскага насельніцтва, а таксама звярнуць увагу на прапарцыянальна вялікія страты яўрэйскага жыхарства ў Беларусі (не менш чым 500 тысяч).

Аналізуючы нацыянальныя змены паміж 1937 і 1959 гадамі, аўтар сцвярджае вельмі хуткае павелічэнне расійскага насельніцтва, якое, нягледзячы на вайну, вырасла на Беларусі ўдвая. Ягоны прырост за гэты перыяд быў трыццацікратна хутчэйшы, чым карэннага насельніцтва, што тлумачыцца, на думку аўтара, галоўным чынам міграцыйнымі рухамі. Пры гэтым, як паказвае статыстыка, расійцы не падлягалі на тэрыторыі Беларусі якой-кольвечы моўнай асіміляцыі. На гэтую акалічнасць аўтар рэагуе наступнай заўвагай: "З'ява гэтая была адваротным бокам дэмаграфічных працэсаў, што звычайна адбываюцца ў свеце. Часцей за ўсё нацыянальная меншасць паглынаецца большасцю, але ў выпадку Беларусі сітуацыя была адваротная. Расійская меншыня, якая жыла на Беларусі, не толькі не падлягала беларусізацыі, але, зусім наадварот, дэстабілізуюча ўздзейнічала на беларускае атачэнне, якое пасля прыняцця рускай мовы падвяргалася дэнацыяналізацыі".

Храналагічныя нацыянальныя змены на Беларусі, у ацэнцы аўтара, можна коратка ахарактарызаваць наступным чынам: 1959--1970 гады -- далейшы наступ русіфікацыі паводле канцэпцыі стварэння адзінага савецкага народа; 1970--1979 гады -- удзел беларускага жыхарства ў агульнай колькасці насельніцтва надалей паступова зніжаўся, а працэсы яго дэнацыяналізацыі і саветызацыі паскараліся; 1979--1989 гады -- у некаторым сэнсе пераломны этап.

(Заканчэнне на 8-й стар.).

**257**

Такая рэзкая перамена тлумачыцца вельмі проста. Якраз у канцы снежня ў Польшчы ўлада пераходзіць да ўрада Язэпа Пілсудскага і пачынаецца барацьба за адбудаванне Рэчы Паспалітай у межах 1772 года. І гэты фактар стаў для бальшавікоў апошнім доказам неабходнасці так званай Беларускай Савецкай Рэспублікі, якой адводзілася роля буфернага ўтварэння паміж бальшавіцкай Расіяй і Польшчай.

Паўплывала на рашэнне РКП(б) і канферэнцыя беларускіх камуністычных секцый, якая прайшла ў Маскве 21--23 снежня і выказалася за самавызначэнне Беларусі.

Беларускае пытанне абмяркоўвалася на пасяджэннях Наркамнаца, які ўзначальваў Сталін. І гэты бальшавіцкі камісар высунуў тады патрабаванне, каб правы будучага Цэнтральнага Бюро Кампартыі Беларусі і аддзелаў будучага ўрада Савецкай Беларусі заставаліся такімі ж, як былога Аблвыканкама партыі і аддзелаў Аблвыкамзаха. Сталін раіў Мяснікову правесці толькі некаторыя змены канструкцыі Аблвыкамзаха. Вось такая рыхтавалася нам "незалежнасць".

**СМАЛЕНСКАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ.** Узброеныя "каштоўнымі ўказаннямі" таварыша Сталіна, мяснікоўцы правялі 30--31 снежня ў Смаленску VI Паўночна-Заходнюю канферэнцыю бальшавікоў, аб'явіўшы яе І з'ездам КП(б)Б як непадзельнай часткі РКП(б). Мяснікоў прапанаваў выказацца за абвяшчэнне Беларускай Савецкай Рэспублікі. Ён тлумачыў неабходнасць гэтага выключна знешнепалітычнымі абставінамі, нібыта імкненняў беларускага народа да неза-

**258**

лежнасці і не было. З'езд прыняў прапанову Мяснікова аб стварэнні Савецкай Беларусі ў межах Смаленскай, Віцебскай, Магілёўскай, Мінскай і Гродзенскай губерняў з часткамі прылеглых да іх суседніх губерняў, дзе пераважала беларускае насельніцтва. Памеры Савецкай Рэспублікі прыкладна супадалі з тэрыторыяй рассялення беларускага этнасу, якую вызначыў прафесар Карскі. Старшынёй Цэнтральнага Бюро Кампартыі Беларусі стаў Мяснікоў. Ад беларускіх камуністычных секцый у склад 15-асабовага кіруючага органа партыі ўвайшло толькі двое, ды і то Жылуновіч хутка пакінуў мяснікоўцаў.

Там жа, на з'ездзе, вырашалася і пытанне аб складзе беларускага ўрада. Зразумела, што бальшавікі не мелі на гэта ніякіх паўнамоцтваў ад беларускага народа. Спіс міністраў ужо загадзя прадыктавала Масква. Яна дапусціла да кіравання Беларуссю тых жа мяснікоўцаў, пераважна чужынцаў, ды прадстаўнікоў камуністычных беларускіх секцый, якія выступалі ў даным выпадку як калабаранты, бо ішлі на супрацоўніцтва з акупантамі. Ішлі, бо верылі ў добрыя намеры бальшавікоў і не бачылі іншага шляху дабіцца хоць нейкай самастойнасці для сваёй Айчыны. Старшынёй марыянетачнага беларускага ўрада стаў Зміцер Жылуновіч. Сярод міністраў было 10 заходнікаў і 7 прадстаўнікоў беларускіх секцый. Міністры нацыянал-камуністы З.Жылуновіч, В.Фальскі, Я.Дыла, Д.Чарнушэвіч, А.Квачанюк, А.Чарвякоў, І.Пузыроў патрабавалі выключэння з урада А.Мяснікова, М.Калмановіча і Р.Пікеля, якія ра-

**259**

ней актыўна выступалі супраць утварэння Беларускай Савецкай Рэспублікі. Напужаны Мяснікоў 1 студзеня 1919 года накіраваў тэлеграму-скаргу Сталіну, і той катэгарычна патрабаваў ад Жылуновіча падпарадкавання рашэнням ЦК партыі. Гісторыя яшчэ не ведала такога прыкладу, калі кучка партыйцаў выдавала сваю канферэнцыю за Устаноўчы сход і вырашала лёс цэлага народа.

**АБВЯШЧЭННЕ БССР.** У ноч з 1 на 2 студзеня 1919 года так званы Часовы рабоча-сялянскі ўрад, які ўзначаліў Жылуновіч, прыняў Маніфест пра абвяшчэнне Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі (БССР). У ім паўтаралася ідэя беларускай дзяржаўнасці, якая ўжо была абвешчана другой Устаўнай Граматай БНР. Маніфест, як і грамата, рэкламаваў сацыяльныя правы працоўных, але адмаўляў дэмакратычныя свабоды, бо яны супярэчылі партыйнай дыктатуры бальшавікоў. І гэта адзінае новае, што прапаноўвалі стаўленікі Масквы жыхарам Беларусі ў параўнанні з урадам БНР. Тым не менш, бэнээраўцы выстаўляліся як ворагі народа.

**ПЕРШЫ ВОПЫТ БЕЛАРУСКАЙ "СУВЕРЭННАСЦІ".** Але спатрэбілася зусім мала часу, каб зразумець, што "незалежнасць" Беларусі была для бальшавіцкага кіраўніцтва Расіі часовай дыпламатычнай мерай. Высунутае некаторымі нацыянал-камуністамі пытанне аб асігнаванні сродкаў на выданне газеты на беларускай мове было адхілена на той падставе, што народныя масы, маўляў, амаль не ўмеюць чытаць па-беларуску. Як быццам беларусы не мелі "Нашай

**260**

нівы" ці "Вольнай Беларусі". Усе беларускія навучальныя ўстановы, якія ўзніклі ў час нямецкай акупацыі, пазакрываліся. Не паспеў яшчэ свет і ўгледзець -- дзе ж тая Савецкая Беларусь, як 16 студзеня ЦК РКП(б) выдае новы загад -- у сувязі са "змяніўшыміся знешнімі абставінамі", вылучыць са складу БССР Смаленскую, Магілёўскую і Віцебскую губерні і далучыць іх да РСФСР. У адказ на такое рашэнне Я. Дыла, В. Фальскі і Ф. Шантыр выйшлі са складу ўрада БССР. Яшчэ праз некалькі дзён выкліканыя ў Маскву кіраўнікі беларускай кампартыі даведваюцца ад Леніна аб плане аб'яднання куртатай БССР з Літоўскай Савецкай Рэспублікай, якой бальшавікі "ашчаслівілі" літоўцаў яшчэ раней за беларусаў -- 16 снежня 1918 года.

**АНТЫБЕЛАРУСКІ З'ЕЗД САВЕТАЎ.** Масква прызнала незалежнасць Беларусі толькі праз месяц пасля яе абвяшчэння. Тады стала магчымым сабраць у лютым 1919 года ў Мінску і Усебеларускі з'езд Саветаў рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў. Каб выключыць якія б там ні было нечаканасці, дэлегаты не выбіраліся насельніцтвам, а назначаліся адпаведнымі інстанцыямі. З'езд завяршыў юрыдычнае афармленне БССР (у бальшавіцкім разуменні гэтага акта) і прыняў яе канстытуцыю, спісаную з канстытуцыі Савецкай Расіі. З'езд абраў таксама ЦВК з 50 чалавек і яго Прэзідыум, якому надавалася функцыя ўрада. Новым бальшавіцкім прэм'ерам Беларусі замест Жылуновіча стаў усё той жа Мяснікоў. Ён фарміруе кабінет з абласнікоў, а былых беларускіх міністраў адпраўляе ў турму.

Захар ШЫБЕКА

ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў XIX - XX СТАГОДДЗЯХ

(РАЗДЗЕЛЫ З НЕНАДРУКАВАНАЙ КНІГІ)

**261**

"Ад імя працоўнага народа Беларусі" дэлегаты не прамінулі зноў абвясціць Раду БНР па-за законам. Тым самым выключалася мажлівасць пашырэння прадстаўніцтва новых органаў улады і паступовагаператварэння іх з абаронцаў інтарэсаў Масквы ў абаронцаў інтарэсаў беларускага народа. Фактычна ЦВК і яго Прэзідыум выконвалі ролю часовай акупацыйнай адміністрацыі Савецкай Расіі і мелі яшчэ менш рэальнай улады ў краі, чым урад і Рада БНР у час нямецкай акупацыі. Пра гэта сведчаць і рашэнні ўжо згаданага Усебеларускага з'езда. Адной пастановай ён юрыдычна афармляе БССР, а другой фактычна ліквідуе яе, калі згаджаецца на зліццё Савецкай Беларусі з Савецкай Літвой. Рабілася гэта быццам бы дзеля лепшай абароны ад знешніх ворагаў, але ці не маглі не бачыць беларускія і літоўскія патрыёты, што бальшавікі проста ігнаруюць незалежнасць іх народаў. Такое аб'яднанне не задавальняла і нацыянал-камуністаў.

**ЛІТБЕЛ.** Злучэнне адбылося 27 лютага 1919 года. Літоўска-Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка (Літбел) са сталіцай у Вільні ахоплівала Гродзенскую, Віленскую і Мінскую губерні. У складзе яе ўрада на чале з В. Міцкевічусам-Капсукасам не было ні аднаго беларуса. Усё беларускае, нават мова, лічылася контррэвалюцыйным. Перыёдыка, літаратура выдаваліся толькі на літоўскай, польскай і рускай мовах. Літбелаўцы нахабна праводзілі антыбеларускую палітыку.

**ШТО НЕСЛА З САБОЮ САВЕЦКАЯ ЎЛАДА.** Жыхары Смаленскай і ўсходніх паветаў

**262**

Магілёўскай і Віцебскай губерняў яшчэ ў 1918 годзе добра зведалі, што такое савецкая ўлада. (Тады ў Смаленску якраз жыў Я. Купала). Каб выплаціць Германіі кантрыбуцыю збожжам, сялян душылі харчовай развёрсткай. З мэтай рабавання вёскі ствараліся камітэты беднаты і харчовыя атрады. Хто не ўступаў у Чырвоную Армію -- расстрэльвалі. Беззямельныя зганяліся ў працоўныя камуны, дзе галеча дзялілася строга пароўну. Закрываліся і рабаваліся цэрквы. У чэрвені 1918 года ўзнаўляліся пакаранні смерцю, з 5 верасня ўводзіўся чырвоны тэрор. Усерасійскія надзвычайныя камісіі на чале з нашым земляком Ф. Дзяржынскім атрымлівалі неабмежаваныя паўнамоцтвы і тапілі ў крыві любыя выступленні супраць дыктатуры бальшавікоў. І вось гэтая ўлада пашыралася на заходнія беларускія землі. Мясцовыя сяляне адразу ж здзівіліся: бальшавікі замест абяцанага дзеляжу панскіх земляў стваралі на іх аснове саўгасы ды толькі перашкаджалі свабоднаму гаспадаранню. Надзеі, што пры бальшавіках будзе лепей, чым пры немцах, не спраўджваліся.

## 26.3. Польская акупацыя БНР 1919 —1920 гадоў

**ВЫСПЯВАННЕ АГРЭСІІ З ЗАХАДУ.** Польская дзяржава канчаткова адрадзілася пасля капітуляцыі Германіі, у лістападзе 1918 года.

**263**

Сваю новую гісторыю яна пачала з вайны за Беларусь, Літву і Украіну ўжо ў другой палове лютага 1919 года. 5 лютага польскае кіраўніцтва падпісвае з Нямеччынай у Беластоку пагадненне аб замене ў Заходняй Беларусі нямецкай акупацыі на польскую. Маладая Польшча шукала ўсходнія межы старадаўняй Рэчы Паспалітай, імкнулася як мага болей тэрытарыяльна ўзрасці, каб выстаяць перад пагрозай з боку Расіі і Германіі. Балазе, што бальшавікі яшчэ ў жніўні папярэдняга года адмянілі царскія міжнародныя дагаворы аб падзеле тэрыторыі той супольнай канфедэратыўнай дзяржавы палякаў, беларусаў, літоўцаў і ўкраінцаў. Але польскія патрыёты даўно ўжо перакруцілі Рэч Паспалітую на свой капыл і лічылі яе амаль што Польскай імперыяй. Дзяржаўная незалежнасць закружыла іх галовы і парадзіла імперскія амбіцыі. Упоперак дарогі да салодкай мары аб стварэнні Вялікай Польшчы найперш стаяла Савецкая імперыя. Польскае камандаванне спяшалася адарваць ад яе Беларусь, бо праз яе Чырвоная Армія найбліжэй падышла да Варшавы.

**ЭКСПАНСІЯНІЗМ БАЛЬШАВІЦКАЙ ІМПЕРЫІ.** Беларусь вельмі неабходна была і Савецкай Расіі як крыніца сыравіны і харчавання, а галоўнае, як заходні калідор для экспарту сацыялістычнай рэвалюцыі ў перадавыя краіны Еўропы. У сакавіку 1919 года І Устаноўчы кангрэс Камінтэрна абвясціў праграму барацьбы за сусветную пралетарскую дыктатуру, за сусветны камунізм. Калі б Польшча не пачала вай-

**264**

ну з бальшавіцкімі Саветамі, дык яны б позна ці рана пачалі яе супраць польскай дзяржавы, відаць, самі.

**СЛАБАСЦЬ САВЕЦКАГА РЭЖЫМУ НА БЕЛАРУСІ.** Абарваная і раскінутая па франтах грамадзянскай вайны Чырвоная Армія не магла аказаць добра ўзброенаму польскаму войску сур'ёзнага супраціўлення. Бальшавікі адчувалі сябе ў Беларусі вельмі ненадзейна. У сакавіку 1919 года ім з цяжкасцю ўдалося задушыць антысавецкае паўстанне галодных і незадаволеных вайскоўцаў у Гомелі і Рэчыцы, якім кіраваў афіцэр эсэр М. Стракапытаў. У красавіку--маі выступленні супраць бальшавікоў адбыліся ў раёнах Рагачова, Барысава, Полацка, Нясвіжа, Слуцка, Старобіна і іншых гарадах і мястэчках. Сяляне не жадалі такой улады, якая рабавала іх да ніткі праз харчовую развёрстку.

**ЗАХОП БЕЛАРУСІ ПОЛЬШЧАЙ.** Таму наступленне палякаў на Беларусі ажыццяўлялася паспяхова. 19 красавіка 1919 года польскія вайсковыя злучэнні, у складзе якіх былі дзве беларуска-польскія дывізіі, захапілі Вільню. Урад Літбела ледзь паспеў перабрацца ў Мінск. Амаль адначасова палякі ліквідавалі ўладу ўрада БНР і на Гродзеншчыне. 28 красавіка яны занялі Гродна. І Беларускі полк на чале з К.Езавітавым спрабаваў абараняцца, але быў абяззброены. Яго салдаты і афіцэры вывозіліся ў лагер на польскай тэрыторыі, і толькі нямногія змаглі прабіцца ў Літву. Нямецкія ўзброеныя сілы, што знаходзіліся ў Гродне, нічога не зрабілі, каб дапамагчы беларусам. Палякі дзейнічалі са згоды камандуючага войскамі Антанты.

З ПРЭЗЕНТАЦЫІ КНІГІ

# БАГРЫМАЎСКАЯ ВОСЕНЬ

Асоба сялянскага паэта-самародка, мастака-каваля Паўлюка Багрыма, які жыў з 1812 па 1891 год, пра якога то ўспаміналі, то забываліся і зноў успаміналі, нарэшце стала нашай нацыянальнай святыняй. Пра гэта сведчыць кніга "Паўлюк Багрым", прэзентацыя якой была прымеркавана да вечарыны памяці сялянскага паэта і мастака, што праводзілася ў лістападзе ў Беларускім універсітэце культуры.

Дзякуючы намаганням заслужанага работніка культуры Беларусі паэтэсы Ніны Загорскай, лаўрэата Міжнароднай прэміі "Адзінства", загадчыка кафедры тэатральнай творчасці Беларускага універсітэта культуры, галоўнага рэдактара часопіса "Тэатральная Беларусь" прафесара Анатоля Сабалеўскага, Рады ЗБС "Бацькаўшчына" і шмат якіх свядомых работнікаў і дзеячаў на адраджэнскай ніве, усталявалася добрая традыцыя -- праводзіць вечары памяці Паўлюка Багрыма.

Першае такое свята адбылося восенню 1992 года на радзіме паэта ў Крашыне. Ужо тады нечакана для арганізатараў яно, нягледзячы на мароз, сабрала шматтысячных гасцей з Баранавіцкага раёна, з Мінска і іншых мясцін Беларусі. Прайшло свята надзвычай цёпла і стварыла ўражанне, нібы яно, гэта свята, разагравалася горнам Багрымавай кузні і на ім, гэтым свяце, абнаўлялася і гартавалася наша гістарычная памяць. Менавіта так пачувалася мне на тым першым свяце, якое ладзіў вядомы яго галоўны рэжысёр Мікола Макарцоў. Пражыўшы на Багрымавай зямлі паўтара месяца, ён ператварыў гэта свята ва ўсенародную ўрачыстасць. У мінулым годзе было чарговае Багрымава свята ў Крашыне. А сёлета прыемная навіна: у вянок багрымаўскаму святу ўплецены плён вялікай калектыўнай працы багрымаўцаў -- першая, можна сказаць, унікальная кніга "Паўлюк Багрым" пад рэдакцыяй Анатоля Сабалеўскага і з яго прадмовай. Кніжку аб'ёмам амаль 14 друкаваных аркушаў выпусціла выдавецтва "Навука і тэхніка" даволі вялікім, як на цяперашні час, тыражом -- аж 13 200 экземпляраў.

Універсітэцкая вечарына Паўлюка Багрыма застанецца незабыўнай для студэнтаў і выкладчыкаў, для пісьменнікаў і ўсіх на ёй прысутных. На ёй, па сутнасці, аб'ядналіся ўсе віды мастацтваў і рабілася адна вялікая справа -- справа абуджэння памяці і культурнага адраджэння. Рэктарат прадстаўляў прарэктар па навукова-творчай рабоце паэт-песеннік Аляксандр Лягчылаў, Міністэрства культуры і друку -- галоўны спецыяліст Уладзімір Мамонька, Раду ЗБС "Бацькаўшчына" -- яе старшыня Ганна Сурмач. Амаль у поўным складзе была рэдкалегія часопіса "Тэатральная Беларусь". Былі пісьменнікі, паэты, кампазітары, мастакі, работнікі культуры. Была знойдзена вельмі ўдалая форма правядзення і вечарыны, і прэзентацыі кнігі.

Зала паступова напаўнялася своеасаблівай мастакоўскай атмасферай. Неяк незаўважна распачалося афіцыйнае адкрыццё. Зрабіў яго, правёў усю вечарыну памяці і прэзентацыю кнігі Анатоль Сабалеўскі. Ён удала звязаў гэтую з'яву з супаўшым Міжнародным днём студэнтаў, выхадам у свет першай кнігі пра Багрыма і прапанаваў назваць яе Багрымаўскай восенню, лагічна давёўшы і патлумачыўшы сваю прапанову праз успаміны і сувязь апошніх трох сваіх асабістых восеняў з багрымаўскімі. І для ўсіх адкрылася важнасць той работы, якая была праароблена, каб выдаць кніжку. Гэта і творчая кухня яе стваральнікаў, і іхняя самаахвярнасць. А самаахвярнасць успрынялася як прыклад грамадзянскага подзвігу. Так, гэта грамадзянскі подзвіг, бо звычайна на выданне такой кніжкі трэба 3--4 гады, а прэзентуемая выйшла за 3 месяцы. Сабалеўскі расказаў, як у пошуках працы нараджалася кампазіцыя кніжкі, як нарэшце рэдкалегія, сабраўшыся некалькі разоў, прыйшла да згоды зладаваць кнігу з трох раздзелаў. Першы раздзел адкрываецца адзіным вершам Паўлюка Багрыма "Зайграй, зайграй, хлопча малы...". У другім раздзеле "Легенды і ява" вырашылі змясціць у храналагічнай паслядоўнасці ўсе матэрыялы, якія былі ў падручніках, хрэстаматыях, навуковай літаратуры, напісаныя пра Паўлюка Багрыма. Гэта ўспаміны, матэрыялы следства, крытычныя артыкулы многіх вядомых вучоных з некалькіх пакаленняў. Сярод іх А. Янулайціс, Яфім Карскі, Максім Гарэцкі, Усевалад Ігнатоўскі, Сцяпан Майхровіч, Міхась Ларчанка, Мікола Прашковіч, Ісідор Бас, Алег Лойка і іншыя -- больш як трыццаць асоб. Гэты раздзел, заўважыў Сабалеўскі, патрабаваў асаблівай увагі і высілкаў. Час забыцця зрабіў сваю справу, і трэба было ачысціць ад наслаенняў часу, выправіць усе памылкі, якія былі зроблены пры даследаванні багрымаўскага лёсу і яго таленту. Спачатку даследчыкі абапіраліся на матэрыялы Наваградскага адваката Ігната Яцкоўскага "Аповесць з майго часу, або Літоўскія прыгоды", апублікаваныя ў 1854 годзе ў Лондане і перавыдадзеныя ў Познані ў 1858 годзе. Багрым тады яшчэ жыў, але пра іх наўрад ці ведаў, як наўрад ці ведалі і іншыя. А пазней абапіраліся на матэрыялы судовай справы крошынцаў, якія ў зборніку займаюць 22 старонкі. Выкарыстанне гэтых дзвюх крыніц і спарадзіла рознага характару недакладнасці і памылкі. Іх трэба было выправіць. Работа была складанай і адказнай. За ўзорныя ўзялі публікацыі Генадзя Кісялёва ў кнізе "Пачынальнікі". Сабалеўскі заўважае, што такія абставіны даюць магчымасць прасачыць рух нашага літаратуразнаўства, якое перажывае не першую хвалю звароту да асобы Багрыма. Пасля публікацыі Яцкоўскага другая хваля была праз 20 гадоў пасля смерці паэта, але тады ніхто не звярнуўся да Крашына, да Багрымавай радні, да тых, хто яшчэ памятаў яго і многае мог расказаць. І толькі ў 50-х гадах Сцяпан Александровіч узяўся за гэта. "Чаму так сталася? -- пытае Сабалеўскі і, успомніўшы пра коласаўскія курганы, у якіх ляжаць нікім не аплаканыя народныя таленты, заўважае, што "лёс Багрыма вельмі хвалюючы. Ён узяў на сябе крыўду забыцця, каб абудзіць нас, каб паклікаць новыя сілы на наша адраджэнне". І ўспомнілася, што яшчэ ў 1937 годзе ў Вільні Адам Станкевіч пісаў: "...Значэнне твораў П. Багрыма ў тым, што яны пайшлі ў народ і словам сваім беларускім будзілі нацыянальную свядомасць, а зместам -- свядомасць сацыяльную". Думаецца, што гэткае адбываецца і цяпер.




Счакаўшы дружныя апладысменты, якія на гэтай вечарыне раздаваліся пасля кожнага выступоўцы і кожнага канцэртнага нумара, А. Сабалеўскі перайшоў да трэцяга раздзела кнігі "З шчасцем на вас азірнуся". У ім размешчаны паэтычныя, празаічныя і драматургічныя творы, прысвечаныя Паўлюку Багрыму. Трагічны лёс паэта і мастака паклікаў да творчага ўзрушэння новыя і новыя пакаленні. І гэты працэс працягваецца, у яго ўключаюцца кампазітары, мастакі, работнікі культуры. Улічваючы розны ўзровень талентаў і майстэрства, рэдкалегія прыняла рашэнне размясціць аўтараў у алфавітнай паслядоўнасці з адзіным парушэннем -- адкрыць раздзел вершам Уладзіміра Караткевіча "Паўлюк Багрым", які прафесар Грынчык назваў лепшай паэмай, патрыятычнай паэмай-араторыяй, роўнай якой у нас няма. А калі гэты твор прачыталі студэнты 3-га курса кафедры тэатральнай творчасці, то пераканаліся ў справядлівасці сказанага М. Грынчыкам.

А потым на словы верша Ніны Загорскай "Мой сусед Паўлюк Багрым" магутна прагучала новая песня ў выкананні знанага кампазітара Алега Чыркуна.

Належным чынам быў адзначаны і мастакоўскі геній Паўлюка Багрыма. Студэнтка І курса Ніна Сівіцкая прачытала апавяданне В. Карамазава "Жаваранкі Багрыма". Ажывіў Карамазаў жырандольнага жаўрука. А студэнтка вельмі добра перадала гэта. Уражаны, мушу прывесці ўрывак з гэтага твора: "... Можа, хтосьці не чуў, стоячы перад люстрай, песні жаваранка, але кожная дзюбка гэтак прагна лавіла паветра, у кожнай дзюбцы гэтак весела грала сонейка, кожная птушачка выглядала настолькі адухоўлена, што толькі яе, толькі песню жаваранка тут і можна было пачуць. Песню самую зямную і самую нябесную -- адначасова. А з той песняю і гэтую:

**Зайграй, зайграй, хлопча малы,**
**І ў скрыпачку і ў цымбалы,**
**А я зайграю ў дуду,**
**Бо ў Крошыне жыць не буду.**
**Бо ў Крошыне пан сярдзіты,**
**Бацька кіямі забіты.**
**Маці тужыць, сястра плача:**

**"Дзе ж ты пойдзеш, небарача!.."**
**Дзе ж я пайду! Мілы Божа!**
**Пайду ў свет, у бездарожжа...**

А потым слова ўзяла паэтэса Людміла Паўлікава і расказала яшчэ пра адну "гарчынку-гаркату" сваім вершам "Магіла паэта", месца якой мы і сёння дакладна не ведаем.

Вечарына памяці Паўлюка Багрыма -- Багрымаўская восень у Беларускім універсітэце культуры ўдалася. Сваю энергію, майстэрства і цеплыню гэтаму святу шчыра аддавалі студэнты кафедры тэатральнага майстэрства, ансамбль народных інструментаў пад кіраўніцтвам Альбіны Скарабагатчанка, народны хор "Валачобнікі" пад кіраўніцтвам прафесара Станіслава Дробыша і ўсе, хто прыйшоў на яе.

Заканчваючы Багрымаўскае свята, Анатоль Сабалеўскі прароча зазірнуў у будучыню, спадзеючыся на тое, што, дасць Бог, смуга невядомасці разарвецца. Сапраўдны лік Багрыма яшчэ адкрыецца, і Паўлюк Багрым будзе кананізаваны ў святыя. Ён зойме сваё месца сярод нашых святых апосталаў, а яго восені будуць шырыцца і большыцца.

**Яўген АДАМОВІЧ.**

**НА ЗДЫМКУ: на вечарыне выступае ансамбль народных інструментаў.**

**Фота Уладзіміра КРУКА.**

# "ДЫК ЗДАБУДЗЕМ КВЕТКУ ШЧАСЦЯ"

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).**

Такія вершы былі, па-першае, выклікам і поўнай супрацьлегласцю "нашаніўскай" паэзіі, у якой сапраўды найбольш гучалі ноты тугі, безвыходнасці, апавядалася пра цяжкую, пакутную долю беларуса, па-другое, яны гаварылі, што трэба надаць беларускай паэзіі жыццясцвярджальнага пафасу, хаця сам малады паэт таксама не цураўся "плачаў-жальбаў" ("Там, дзе хаўтурныя песні, Цягне, імчыць віхура -- Плача аб зорках прадвесні, Плача народ-цемната...", "Шлях даўгі, ланцужны -- Беларусь мая! Перапевы сьцюжы, Летняя туга..."). І ўсё ж муза маладога паэта была аптымістычнай, у сваіх вершах ён радаваўся жыццю, кожнаму сонечнаму дню, шчыра верыў ("Толькі вер -- і жыцьцё пераможаш, Толькі вер -- і загіне зіма, І над краем свабодна, прыгожа Узыйдзе, закрасуе вясна..."), заклікаў ("Калі будзем мы спаць -- Будзе лепей панам... Хто нам можа што даць? -- Мы! Ты сам!"... "Здаецца б клікаў да работы новай, Да песьняў веснавых, да шчасьця, да жыцьця!..."), шукаў ("Між лет доўгіх нявролі й сна, Зімы і начэй, скаваўшых край, -- Шукаю я цябе, о, май!... Цябе народная вясна..."), марыў ("Я шчасліў тады, калі воляй напоўніцца родны наш край..."). Наколькі жыццярадаснай была душа паэта, сведчыць і тое, што многія вершы зборніка "Веснапесьні" пісаліся ў Лукішскай турме, куды польскія ўлады пасадзілі яго за актыўную, бязбоязную барацьбу за беларускае нацыянальнае адраджэнне. Але і апынуўшыся ў турэмнай камеры, ён не паддаецца роспачы, не думае адракацца ад сваіх ідэй ("Цэлую зімачку буду чакаць Бураў вясеньніх... і толечкі зоркі Усьміхнуцца вясною, пайду заклікаць Вясну на сялянскія ўзгоркі...", "У цэлі расселісь халодныя змрокі, Праз краты спусьціліcь панурыя цені... Думкі паплылі далёка, далёка -- Думкі вітаюць у сонечным краі..."). І нават у назвах большасці яго вершаў гэтага перыяду адчуваецца жыццясцвярджальны, малады настрой ("Толькі вер...", "Вясна", "Бура", "Гэй, прасторы!", "У майскі вечар", "У маі", "З лета", "Песня жаўрука", "Поле", "Марш "Адраджэнне", "Песні, мае краскі..."). Свой роздум аб жыцці Хведар Ільяшэвіч часта раскрываў у своеасаблівых вершах у прозе ("Вечар", "Думкі"), з якіх пазней пачыналіся яго празаічныя творы.

Выйшаўшы з Лукішак, Хведар Ільяшэвіч па-ранейшаму працягваў сваю адраджэнскую дзейнасць, у добрай згодзе актыўна працаваў са сваімі даўнімі сябрамі Шылам, Мятлой, Кацярынай Стаўбунік (настаўніца, вядомая грамадская дзяячка Заходняй Беларусі на ніве нацыянальнага адраджэння, дарэчы, родная цётка Раісы Жук-Грышкевіч). Гэту сваю дзейнасць ён спалучаў з вучобай на гістарычным факультэце Віленскага універсітэта імя Стэфана Баторыя, які скончыў у 1936 годзе. Абараніў дысертацыю "Друкарня дома Мамонічаў у Вільні (1575-1622)", атрымаў званне магістра філасофіі. У яго асабістым жыцці таксама адбыліся змены -- ён ажаніўся. Жонкай яго стала дзяўчына, якая кахалася з братам Хведара Міколам. Дарэчы, Мікола Ільяшэвіч -- разумны, шчыры, таленавіты юнак, вучыўся з многімі беларускімі студэнтамі ў Карлавым універсітэце ў Празе, скончыў гістарычны факультэт, напісаў грунтоўную навуковую працу "Беларусь і беларусы", але вельмі рана згарэў ад невылечных тады сухотаў. На пахаванні Міколы Хведар і пазнаёміўся з Надзяй, бацькі якой жылі ў Тапалянах каля Беластока. Маладая сям'я пасялілася ў Вільні, дзе ў іх нарадзілася двое дзяцей: дачка Марыся (1936) і сын Юрка (1938). Хведар працаваў у Віленскай беларускай гімназіі, выкладаў родную мову, літаратуру, гісторыю. У той жа час у гімназіі выкладаў матэматыку Барыс Кіт, які любіў братоў Ільяшэвічаў, увесь час сябраваў з імі.

Сямейныя, настаўніцкія абавязкі не перашкаджалі, аднак, займацца літаратурнай творчасцю. У 30-я гады Хведар Ільяшэвіч выдае два зборнікі вершаў: "Зорным шляхам" і "Захварбаваныя вершы", піша навуковую працу: "Ядвігін Ш. (Антон Лявіцкі). Жыццё і літаратурная творчасць", звяртаецца да прозы, шмат друкуе апавяданняў (пад псеўданімамі: М. Дальны, Святаслаў Залужны, Л. Іскра, Стары Скаут, Малады. Па-ранейшаму не пакідае пасталеўшага паэта напал веры і аптымізму:

**Я не баюсь за Беларусь:**
**Яна, працоўная, прачнулась --**
**І песні радасьці цвітуць**
**Ад Адраджэння шуму-гулу...**

Звяртаючыся да маладых паэтаў, ён заклікае: "Годзе песні пяяць аб нудзе!...", "...Пагляньце -- колькі сьвету! Як зьзяе даль палёў!...", "Гэй, сябры! Смела ў бой з перунамі! Успыхне заўтра іншы ўсход!"...).

**Лідзія САВІК.**

**(Заканчэнне будзе).**

# ФЕСТЫВАЛЬ НА ДЗЯДЫ

## СУБ'ЕКТЫЎНЫЯ НАТАТКІ ПАВОДЛЕ...

Наступны аўтар -- Фларыян Міладоўскі. Як піяніст, ён пачаў свае заняткі пад кіраўніцтвам выдатнага мінскага настаўніка Дамініка Стэфановіча і ў хуткім часе ўжо гастраляваў па Беларусі. Па парадзе С. Манюшкі, з якім ён пасябраваў дзякуючы сумесным заняткам у Стэфановіча, Міладоўскі едзе ў Берлін, каб завяршыць музычную адукацыю. Да гэтага часу ён ужо спрактыкаваны дырыжор, пад кіраўніцтвам 17-гадовага маэстра ўласны аркестр графа Бенядзікта Тышкевіча ў маёнтку Красны Двор дасягнуў вельмі высокага ўзроўню і набыў вядомасць нават у Еўропе... У Берліне Міладоўскі знаёміцца з Ф. Мендэльсонам, у Францыі -- з Ф. Шапэнам і Ф. Лістам (які надрукаваў адзін з твораў беларускага калегі ў зборніку "Das Pianoforte"). Вярнуўшыся на радзіму, Міладоўскі сустракае тут самы цёплы прыём, яго аўтарытэт сярод мінскіх музыкантаў параўноўваецца з Манюшкавым. Але апошнія трыццаць гадоў свайго жыцця Міладоўскі праводзіць у Францыі, дзе выкладае ігру на фартэпіяна ў вышэйшай музычнай школе ў Сан-Клеменце... Як кампазітар, ён вядомы творамі ў камерных жанрах і як аўтар аперэты "Канкурэнты", "Імшы Es dur"... Пяць Кантрадансаў для фартэпіяна, якія прагучалі ў бліскучым выкананні Ксеніі Кузьменка, -- чароўныя, галантныя, паэтычныя мініяцюры, якія, безумоўна, заключаюць у сабе значныя цяжкасці для выканаўцы і патрабуюць пэўнага піяністычнага ўзроўню. "Напеў" -- вакальны твор, напісаны ў жанры, які ў рускай музыцы завецца "Расійскай песняй". "Песня старога гулякі" -- цудоўная жартоўная сцэнка, а раманс "Шара гадзіна" -- гэта ўжо насычаны ўнутраным драматызмам філасофскі роздум. Дарэчы, гэтыя рамансы прысвечаны Ахілесу Юзафу Банольдзі, выдатнейшаму барытону сярэдзіны XIX стагоддзя, блізкаму сябру і выканаўцу вакальных твораў Манюшкі і Міладоўскага, аб выкананні якога Манюшка пісаў: "Чуе маё аўтарскае сэрца, што ніхто і ніколі лепей за Банольдзі не выканае Ёнтака"...

Духоўныя творы Станіслава Манюшкі неаднойчы гучалі ў сценах касцёла Св. Роха. Адметна, што ў апошні час мы ўсё больш свядома ставімся да Манюшкі як да класіка беларускай культуры. На ўрачыстым адкрыцці свята з нагоды 175-годдзя з дня нараджэння вялікага беларуска-польскага кампазітара (нагадаю, што ўкладальнікам гэтай падзеі ў красавіку 1994 года таксама з'явілася "Беларуская Капэла") менавіта пані Марыя Фолтын, польская спявачка, старшыня Таварыства прыхільнікаў Манюшкі, падкрэсліла, што "вялікі творца песціў песню беларускую". Прыкладам таго -- опера "Сялянка" на тэкст В.Дуніна-Марцінкевіча, дзе ўпершыню з опернай сцэны прагучала беларуская мова, шматлікія рамансы на тэксты беларускіх паэтаў. "Сялянка" была пастаўлена ў Мінску ў 1852 годзе; у той час Манюшка быў арганістам касцёла Св.Яна ў Вільні, дзе й была створана большасць ягоных духоўных твораў, якія кампазітар выдаў пад назвай "Песні нашага касцёла". Два з іх -- прэлюдыю для аргана "Ідзе, ідзе Бог праўдзівы" і "Абвяшчэнне" для сапрана з арганам мы пачулі ў адным з канцэртаў фестывалю.

Аляксандр Ельскі -- беларускі пісьменнік, гісторык, этнограф, перакладчык, публіцыст, сябра і першы біёграф В.Дуніна-Марцінкевіча, стваральнік літаратурна-краязнаўчага музея ў Замосці (цяпер Пухавіцкі раён) -- яшчэ й знаходзіў час музыку пісаць. Ды якую! Яго "Звонак-полька" ў выкананні фартэпіяннага дуэта Г.Гетманава -- К.Кузьменка -- цуд якая прыгожая. Яскравая, вясёлая, насычаная гумарам, каларыстычнымі дэталямі, яна абудзіла самы шчыры водгук у слухачоў. І зноў тое ж уражанне: калі гэта бірулька для ўслады слыху гасцей дома, дык якім густам, а таксама грунтоўнай музычнай, дый наогул мастацкай адукацыяй валодалі нашыя бліжэйшыя продкі, калі гэткая фрашка належыць пяру аматара!

Брат Аляксандра, Міхал Ельскі, скрыпач і кампазітар, атрымаў добрую музычную адукацыю ў Мінску ды Вільні, а потым вучыўся ў славутых майстроў А.В'етана і К.Ліпіньскага. Ён шмат выступаў з канцэртамі на Беларусі і за яе межамі, выдаваў свае творы, быў вядомы як публіцыст і даследчык. Дарэчы, ён атрымаў адукацыю юрыста, але пакінуў юрыдычную кар'еру, каб цалкам аддацца музыцы. У канцэрце прагучалі яго фартэпіянная "Сялянская мазурка" і "Песня без слоў" для скрыпкі.

Карані музычнай асвечанасці абодвух братоў -- у іх сям'і. Бацька, Карл Станіслававіч, добра іграў на скрыпцы, і ў ягоным доме часта музіцыравалі. Па прафесіі лекар, ён шчыра цікавіўся літаратурай і мастацтвам, што й абумовіла творчыя інтарэсы ягоных сыноў. Але і сам Карл Станіслававіч не пазбягаў кампазітарскіх заняткаў -- Паланез для скрыпкі з фартэпіяна яго сачынення таксама прагучаў у фестывальнай праграме.

Постаць Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча ўзнікае заўсёды, калі размова ідзе аб культурных падзеях таго часу. Паэт і драматург, акцёр, вядомы тэатральны дзеяч, ён аўтар тэксту "Сялянкі" Манюшкі, дзе сам выконваў ролю Навума Прыгаворкі (што патрабавала пэўных музычных здольнасцяў). Мяркуецца, што музыку для сцэны Навума Прыгаворкі ён напісаў сам...

... Што найбольш уразіла на "вечарынах" (прабачце, неяк не магу назваць іх канцэртамі -- узнікала абсалютнае адчуванне прысутнасці менавіта ў музычным салоне): аўтэнтычнасць дзеяння, адэкватнасць выканання і ўспрымання. Была не звычайная канцэртная публіка -- былі госці, сябры, публіка свецкай гасцінай. Былі не выканаўцы -- гаспадары дома, іх дочкі, сябры гаспадароў... Праграмы ўспрымаліся на адзіным подыху, хацелася слухаць яшчэ і яшчэ. Бліскучае майстэрства зусім юных дзяўчат -- піяністак Ксеніі Кузьменка (якой ужо належыць зорнае месца на беларускім музычным небасхіле), Анастасіі Пазняковай і Ганны Гетманавай (гэты фартэпіянны дуэт стаў лаўрэатам Міжнароднага конкурсу, але і сольнае выкананне кожнай з піяністак абуджае вельмі моцныя ўражанні); скрыпачкі Юліі Стэфановіч з яе дзіўным гукам і бездакорнай інтанацыяй. Акампаніятарскі вопыт Ніны Кавецкай, прафесіяналізм і цудоўнае валоданне стылем эпохі Ганны Каржанеўскай, якая з'яўляецца не толькі акампаніятарам вакальных твораў, але й сатворцам некаторых з іх... Цудоўнае сапрана Таццяны Цыбульскай і выдатны яе дуэт з арганам, велічная Прэлюдыя для аргана ў выкананні У.Неўдаха; чароўны тэнар Рыгора Палішчука і дакладнае адчуванне спеваком эстэтыкі твора... Бліскучая вакальная школа і выдатнае драматычнае майстэрства Віктара Скорабагатава, яго пачуццё ўнутранай драматургіі твора... Мяне найбольш уразіла менавіта заканчэнне канцэрта, калі прагучала арыя Камісара з "Сялянкі", потым -- па кантрасту -- яскравая, поўная народнага гумару сцэна Навума Прыгаворкі, безумоўная кульмінацыя "мініцыкла" і, здавалася б, лепшага для заканчэння праграмы і прыдумаць нельга -- дык не! Раптоўна, як быццам усю душу пераварочваючы, гучыць вельмі простая і ціхая, такая задуменна-праніклівая "Старая песенька" Напалеона Орды, што ад гэтага павароту, ад раптоўнасці, ад чыстай прастаты -- нібыта душу вынялі, і вось яна, жывая, плача... Паверце, уражанне было наймацнейшым -- дзякуй Віктару Скорабагатаву...

Праграму заключнага канцэрта фестывалю склалі Другі скрыпічны канцэрт, "Танец духаў", "Танец смерці" для скрыпкі з аркестрам Міхала Ельскага ды Поўная музыка да трагедыі У.Озерава "Фінгал" Восіпа Казлоўскага (выданне 1808 года). Сапраўды, сучасная скрыпічная школа мае магчымасць узбагаціцца трыма буйнымі канцэртнымі творамі эпохі рамантызму -- драматычнымі, шматколернымі, багатымі рознымі адценнямі пачуццяў --сапраўднымі скрыпічнымі канцэртамі. Дзякуючы выканаўцу Льву Гарэліку (нястомнаму прапагандысту беларускай музыкі, намаганнямі якога вернуты да канцэртнага жыцця скрыпічныя творы М.Ельскага, М.Радзівіла, М.Казіміра Агінскага), мы маем уяўленне аб найвышэйшым узроўні прафесійнай культуры Міхала Ельскага, кампазітара, якога з упэўненасцю можна аднесці да найбольш выдатных творцаў XIX стагоддзя. Дарэчы, аркестравыя рэдакцыі гэтых твораў зрабіў лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, прафесар Андрэй Мдзівані, а рэдакцыю скрыпічных партый -- народны артыст Беларусі Леў Гарэлік.

Музыка да "Фінгала" (сюжэт трагедыі навеяны "Паэмамі" Асіяна Дж.Макферсана) -- мабыць, складаная для ўспрымання ў канцэртным выкананні, без сувязі з драматычным дзеяннем. І ўсё ж такое выкананне дае магчымасць адчуць прафесіяналізм кампазітара, яго валоданне жанрам меладрамы, дзе асабліва вызначаецца роля хору; яго жывы і драматургічна рухомы аркестр. Адаптацыю музычнага тэксту да сучаснага аркестра зрабіў Леанід Смялкоўскі. Выдатнае выкананне харавой капэлы імя Р.Шырмы, а таксама сімфанічнага аркестра (дырыжор -- Міхаіл Сінькевіч) дазволіла пазнаёміцца з гэтым цікавым сачыненнем, якое ці не ўпершыню прагучала з моманту яго выканання ў мінулым стагоддзі...

Перагарнуўшы яшчэ адну старонку беларускага музычнага (а ў больш шырокім сэнсе -- культурнага) побыту, фестываль "Адраджэнне беларускай капэлы" зноў абвясціў: нам ёсць чым ганарыцца. "Выпаленая пустыня", якой да апошніх часоў з'яўлялася айчынная культурная гісторыя ў памяці беларусаў савецкага часу, пакрысе ператвараецца ў квітнеючы аазіс з асобымі, толькі яму ўласцівымі гукамі, колерамі, пачуццямі...

Пытанне, якое заўсёды хвалюе большасць слухачоў: дзе знаходзяцца нотныя архівы беларускіх кампазітараў, адкуль "усплываюць" усе гэтыя творы? Большасць музыкі, вернутай на Радзіму ў выглядзе фота- і ксеракопій -- здабытак Яўгена Паплаўскага, дырэктара "Беларускай Капэлы", які доўгі час мэтанакіравана працуе ў архівах Нацыянальнай бібліятэкі імя Салтыкова-Шчадрына ў Санкт-Пецярбургу. Нам дапамагаюць таксама беларусы з розных краін свету. Так, мы вельмі ўдзячныя Міністэрству замежных спраў Беларусі і беларускаму пасольству ў Парыжы за атрыманыя сёлета "Беларускай Капэлай" копіі парыжскіх першадрукаў твораў Напалеона Орды.

Зразумела, без творчай дапамогі мноства людзей -- кампазітараў, перакладчыкаў, -- тых, хто рыхтаваў творы да выканання, гэты нотны матэрыял не знайшоў бы свайго слухача. Шчырая падзяка А.Мдзівані, Л.Смялкоўскаму, Л.Гарэліку; літаратуразнаўцу, паэту і перакладчыку У.Мархелю, які так непасрэдна і па-сяброўску распавядаў перад пачаткам камерных канцэртаў аб гістарычна-культурным стане Беларусі XIX стагоддзя, так непрыкметна ствараючы нейкую летуценную аўру агульнага сяброўства ды прыналежнасці да гэтай культуры яшчэ да пачатку музыкі... Адметны ды й вельмі прыемны ўдзел маладых выканаўцаў, асабліва хачу адзначыць тую цяжкую працу, якую давялося правесці выпускніку Санкт-Пецярбургскай кансерваторыі дырыжору М.Сінькевічу, з якой малады маэстра справіўся вельмі добра. Наогул, тое, што навучэнцы ці ўчарашнія выпускнікі музычных устаноў выконваюць забытую беларускую музыку, спрыяючы яе адраджэнню, дазваляе спадзявацца, што творы гэтыя не апынуцца зноў на архіўных паліцах, а будуць уведзены ў канцэртны, педагагічны рэпертуар. Да нас ужо звярталіся педагогі з просьбамі аб хутчэйшым выданні гэтых твораў для іх далейшай канцэртнай ды й навуковай распрацоўкі. Але -- як заўсёды --пытанні фінансавання. Ці здолеем іх вырашыць?..

З фестывальнай нагоды быў выдадзены буклет, у які ўвайшлі біяграфіі і фотаздымкі кампазітараў і выканаўцаў (інфармацыя была ўзята з даследчыцкіх набыткаў А.Ахвердавай, І.Бэлзы, В.Грыгор'ева, В.Дадзіёмавай, А.Капілава, А.Кіркора, А.Мальдзіса, У.Мархеля, А.Назарава, М.Пекеліса, В.Позняка, Л.Трэпет, Т.Хжаноўскага, Я.Янушкевіча). Нельга не адзначыць працу перакладчыкаў Д.Назіна і Л.Шчукіна (буклет выдадзены на беларускай і англійскай мовах), мастака М.Барздыкі, які з арганічным адчуваннем эпохі аформіў тытул. Вялікі дзякуй выдавецка-творчай лабараторыі на чале з Аляксандрам Бабянковым і Андрэем Кавалёвым, якая распрацавала і выдала буклет на якасна вельмі высокім узроўні. На сённяшні дзень гэтае выданне, на жаль, адзінае, дзе разам сабраны біяграфічныя звесткі аб нашых кампазітарах XIX стагоддзя.

Прыемная адметнасць нашага часу: узнаўляюцца культурныя асяродкі мінуўшчыны, якія зноў выконваюць тую ж функцыю, што й раней, -- Гродзенская капэла імя Антонія Тызенгаўза, Мірскі замак, сядзіба М.Кл.Агінскага ў Залессі, манюшкаўскі Убель... У гэтым жа радзе ўзнаўленне сядзібаў Празароўскіх-Ельскіх у Дудутках і ў Замосці. У чэрвені з нагоды прыезду нашчадкаў Ельскіх у Дудутках адбудзецца канцэрт, плануецца выпуск зборніка фартэпіянных і скрыпічных твораў Міхала, Аляксандра ды Карла Ельскіх...

Я вельмі спадзяюся, што настане час, калі ў Нясвіжы будзе музей і там загучыць знойдзеная музыка кампазітараў роду Радзівілаў (канцэрт з музыкі Мацея Радзівіла быў арганізаваны ў Нясвіжы "Беларускай Капэлай" у верасні 1994 года, у чэрвені наступнага года там жа прагучыць канцэрт з камерных твораў Антонія Хенрыка Радзівіла), калі ў сядзібах Дудуткі ды Замосці будзе гучаць музыка прадстаўнікоў сям'і Ельскіх, калі музей Манюшкі будзе не ў школьным будынку, а ў аднаўленым паводле малюнкаў бацькі кампазітара маёнтку Убель.

І там таксама будзе гучаць музыка беларускага класіка, як гэта атрымалася ў Залессі, дзе ў адрэстаўрыраванай сядзібе М.Кл.Агінскага праводзіцца дзіцячы конкурс піяністаў і скрыпачоў яго імя.

... Я заплюшчваю вочы і бачу: якісьці фестываль "Адраджэнне беларускай капэлы"; білеты разбягаюцца ў момант іх паступлення ў продаж; за некалькі гадзін да канцэрта ля залы стаіць натоўп людзей, якія спадзяюцца на "лішні білецік"... Калі й марыць -- дык ні ў чым сабе не адмаўляць! Ці не так?..

**Наталля СОБАЛЕВА.**

**Заканчэнне.**
**Пачатак у №49.**

## ІРЫНА ЖДАНОВІЧ

**Беларускае тэатральнае мастацтва панесла вялікую страту. 2 снежня на 88-м годзе жыцця пасля працяглай хваробы памерла выдатная беларуская актрыса, педагог, народная артыстка Беларусі Ірына Ждановіч.**

**Ірына Фларыянаўна Ждановіч нарадзілася 27 верасня 1906 года ў Мінску. Сцэнічную дзейнасць пачала ў Першым беларускім таварыстве драмы і камедыі, створаным яе бацькам, выдатным арганізатарам і рэжысёрам Фларыянам Ждановічам. З 1920 года працавала на сцэне тэатра імя Янкі Купалы. У 1962--1969 гадах выкладала ў Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце.**

**Станаўленне творчай індывідуальнасці актрысы, фарміраванне яе як мастака адбываліся пад уплывам бацькі, а таксама выдатнага рэжысёра і педагога Еўсцігнея Міровіча. У першыя гады працы ў тэатры стварыла галерэю вобразаў юных герояў, аб'яднаных ідэяй бескампраміснасці, верай у ідэалы дабра і розуму. Этапная яе роля -- Марылька ў "Бацькаўшчыне" Кузьмы Чорнага.**

**Выканаўчае майстэрства актрысы заўсёды вызначалася трагічнай напружанасцю, апантанасцю, глыбокім лірызмам. За стварэнне вобраза Ані ў п'есе А. Маўзона "Канстанцін Заслонаў" у 1948 годзе атрымала Дзяржаўную прэмію СССР.**

**Ролі класічнай драматургіі -- Джульеты ("Рамэо і Джульета" У. Шэкспіра), Веры ("Апошнія" М. Горкага), Норы ("Нора" Г. Ібсена), Людмілы, Негінай ("Позняе каханне", "Таленты і паклоннікі" А. Астроўскага) -- вызначаліся кантрастнасцю душэўных пачуццяў, рамантызмам, глыбока індывідуальным характарам творчасці.**

**Выступала Ірына Фларыянаўна і як рэжысёр. У тэатры імя Янкі Купалы яна ставіла ў свой час спектаклі "Таня" А. Арбузава, "Праз 20 гадоў" М. Святлова. Казка "Пунсовая кветачка" І. Карнавухавай і Л. Браўсевіч дагэтуль захоўваецца ў Купалаўскім тэатры ў рэжысуры І.Ф. Ждановіч.**

**У некралогу, падпісаным кіраўнікамі дзяржавы, грамадска-палітычнымі дзеячамі і калегамі па тэатральнаму мастацтву, гаворыцца: "Светлы вобраз Ірыны Фларыянаўны, выдатнай дзеячкі нацыянальнай беларускай сцэны, назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах".**

## ЖАРТАВАЦЬ ЗАЎСЁДЫ ЛЮБІЛІ...

Споўнілася 70 гадоў з дня выхаду першага нумара двухтыднёвага часопіса гумару і сатыры "Авадзень", што выдаваўся ў Вільні ў 1924--1925 гадах. Праўда, у 1929 годзе была зроблена спроба аднавіць "Авадзень", але ўдалося выпусціць яшчэ толькі два нумары. Прытым апошні, трынаццаты, з'явіўся ў лютым 1933 года.

На старонках "Аваднея" пераважаў бытавы гумар, хоць нельга сказаць, што часопіс знаходзіўся ўбаку ад нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. Вакол выдання групаваліся такія аўтары, як А.Васілеўскі (Антось з Лепеля), які выступаў з гумарэскамі, фельетонамі і аднаактовымі п'есамі, Г.Леўчык, У.Паўлюкоўскі (Улад-Ініцкі), І.Маразовіч, В.Гаротны і іншыя, яны пісалі гумарэскі, сатырычныя замалёўкі як у вершах, так і ў прозе. Былі ў "Аваднея" і свае мастакі — Л.Дудка, М.Гармановіч, В.Буська, І.Маразовіч.





# І СЁННЯ, І ЗАЎТРА, І ЗАЎСЁДЫ

*Хто б ты ні быў -- наведаеш калі*
*Прыгожы і свяшчэнны гэты кут*
*Свабоднай беларускай зямлі --*
*З пашанай пакланіся ёй, бо тут*
*Купала нарадзіўся на свет белы.*

**М.АЎРАМЧЫК.**

2 снежня адбылося адкрыццё філіяла Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры ў в.Гарадок Маладзечанскага раёна. Для мясцовых жыхароў з'ява гэтая была сапраўдным святам. Хлебам і соллю сустракалі яны гасцей -- народных пісьменнікаў Беларусі Янку Брыля і Ніла Гілевіча, прадстаўнікоў Міністэрства культуры і друку, музейных супрацоўнікаў.

Пасля адкрыцця музея для мясцовых жыхароў і гасцей Гарадка быў наладжаны канцэрт артыстаў Белдзяржфілармоніі.

Маладзечаншчына -- цудоўны куток беларускай зямлі, які ўвабраў у сябе прыгажосць і дабрату, працавітасць і гасціннасць, мудрасць і мужнасць яго людзей. Колькі тут цікавых мясцін, што нагадваюць чуйнаму сэрцу пра падзеі, удзельнікамі якіх былі нашы дзяды і прадзеды! Адна з такіх мясцін -- вёска Гарадок, багатая гістарычнымі помнікамі: млын -- XIX стагоддзе, царква -- другая палова XIX стагоддзя, гарадзішча -- помнік ранняга жалезнага веку і сярэднявечча, селішча, пры даследаванні якога знойдзены рэчы XIY--XYII стагоддзяў. Гэтая зямля дала жыццё народнаму паэту Беларусі Я.Купалу. Тут нарадзіліся З.Аксельрод, І.Козел, Р.Семашкевіч.

З мэтай аднаўлення гісторыка-культурнай спадчыны гэтага самабытнага куточка беларускай зямлі, ушанавання памяці слаўных сыноў Маладзечаншчыны, адраджэння векавых традыцый нацыянальнай культуры і створаны філіял Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры.

Музей складаецца з трох экспазіцыйных залаў. Першая з іх праводзіць па шляхах тых вандроўнікаў, што даследавалі Беларусь і вывучалі яе, пачынаючы з далёкай мінуўшчыны і да нашых дзён. Яна знаёміць з працай, якую энтузіясты ў галіне этнаграфіі і фальклору прарабілі ў XIX-пачатку XX стагоддзяў. Такія імёны, як П.Шэйн, У.Нікіфароўскі, П.Шпілеўскі, М.Федароўскі, У.Насовіч, Я.Карскі, А.Смоліч, К.Тышкевіч, -- сёння легенда. Многія з даследчыкаў займалі сціплую пасаду і цярпелі матэрыяльныя нястачы. Але з усёй адданасцю яны працягвалі сваю справу і за ўласныя грошы выдавалі фальклорныя зборнікі. Некаторыя з іх нават па паходжанню не былі беларусамі. І тым не менш, гэтая зямля з яе дзівоснымі песнямі, таямнічымі паданнямі і фантастычнымі казкамі іх прычаравала.

П.Шпілеўскі ў прадмове да сваёй кнігі "Даследаванне пра ваўкалакаў" пісаў; "На старонках нашых часопісаў пастаянна з'яўляюцца розныя даследаванні пра старажытнасць Афін і Рыма... А старажытнасць Заходняй Русі, асабліва ж Беларусі, як быццам лічыцца занадта малазначным для таго, каб надрукаваць пра іх у якім-небудзь юрыдычным выданні. Не ведаю, чым вытлумачыць такую абыякавасць нашых вучоных да Беларусі. Ці не тым, што рымскія і грэчаскія старажытнасці лягчэй пісаць у кабінеце па замежных крыніцах, а каб пісаць пра Беларусь, для гэтага неабходна ведаць яе? А Беларусь жа вартая таго!"

І сапраўды Беларусь вартая таго, каб яе ведалі, каб ёю захапляліся, каб у кожным куточку, у кожнай мясціне народ ганарыўся сваёй багатай роднай зямелькай, каб мелі магчымасць сяльчане Гарадка зайсці ў музей і ўшанаваць памяць тых, хто вывучаў іх край і чые імёны сёння прадстаўлены ў экспазіцыі музея.

Вывучэнне быту і духоўнай культуры насельніцтва Беларусі складае адно з найбольш буйных пытанняў агульнай праблемы этнічнай гісторыі беларусаў і цесна звязана з усёй праблематыкай развіцця культуры народа са старажытнасці да нашага часу.

Другая зала музея знаёміць з мястачковымі рамёствамі -- этнаграфічнымі рэчамі, што перадалі жыхары Гарадка і навакольных вёсак. Выклікаюць цікавасць вырабы з воўны, ткацтва, рэчы побыту з дрэва, саломкі, кераміка.

Кожны край мае тых, хто яго апявае. Маладзечаншчына надзвычай багатая слаўнымі імёнамі, сапраўднымі талентамі. Апошняя зала расказвае аб творчасці Я.Купалы, З.Аксельрода, І.Козела, Р.Семашкевіча.

У вестыбюлі фотаздымкі адлюстроўваюць прыгажосць краявідаў Гарадка.

Калісьці З.Бядуля сказаў: "Быць беларусам -- гэта значыць працаваць для свайго краю, для свайго народа і развіваць сваю культуру і мастацтва".

Мы маем надзею, што музей у Гарадку з'явіцца крыніцай абуджэння ў сэрцах і душах наведвальнікаў нацыянальнай годнасці, адновіць той нацыянальны стрыжань, які будзе ўвесь час падтрымліваць, накіроўваць іх на шляху нацыянальнага адраджэння.

Першы запіс у кнігу водгукаў музея зрабіў Ніл Гілевіч:

"Музей прыняў першых наведвальнікаў, музей пачаў жыць... Не сумняваюся, што ў яго вялікая будучыня, што сюды, у гэтую хаціну, будуць заходзіць людзі з усяго свету, каб адкрыць для сябе і пазнаваць Беларусь -- нашу любую Бацькаўшчыну. Паздароў, Божа, тых добрых людзей, чыімі клопатамі ўзнік музей і будзе служыць роднай культуры -- і сёння, і заўтра, і заўсёды".

**Зінаіда КУЧАР.**

**НА ЗДЫМКАХ: адкрыццё філіяла Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры ў вёсцы Гарадок; экспанаты музея.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

# ШЛЯХ ДАЎЖЫНЁЙ СТО ГАДОЎ

**(Заканчэнне. Пачатак на 4-й стар.).**

Пасля далейшага нязначнага змяншэння долі беларусаў у агульнай колькасці насельніцтва краіны і дасягнення такога ўзроўню дэнацыяналізацыі, пры якім культурна-моўная асобнасць беларусаў станавілася ўсё больш праблематычнай, разам з гарбачоўскімі зменамі пачалося нацыянальнае адраджэнне беларусаў. Пасля стольскіх гадоў пастаноўкі пад сумненне нацыянальнай адметнасці не можа гэта, аднак, наступіць хутка. "Будучыня Беларусі залежыць у вялікай ступені ад наладжвання стасункаў паміж беларускім і расейскім насельніцтвам. Тут паўстае пытанне, на якое цяжка адказаць, менавіта, ці расейскае жыхарства будзе лаяльным у адносінах да новай дзяржавы. Паўстанне сярод гэтага насельніцтва дэцэнтралізацыйных тэндэнцый можа быць падставай міжнацыянальных напружанасцяў і нават можа пагражаць суверэнітэту Беларусі", — заключае аўтар. А вось польская меншасць на Беларусі, на думку П.Эберхарта, складаючы ледзь 6 працэнтаў насельніцтва краіны, якая ў пераважнай сваёй большасці таксама сталася ахвярай дэнацыяналізуючых працэсаў і дзейнасці, аб'ектыўна не ўяўляе ў сучасны момант паважнай праблемы для беларускай дзяржавы і будавання яе нацыянальнай тоеснасці. З аднаго боку, няма чаго здзіўляцца таму, што аўтар, будучы палякам, выступае нейкім чынам на баку гэтае менавіта меншасці, але таксама цяжка не прызнаць, што ён мае рацыю, калі сцвярджае, што "ў сітуацыі паўсюднай прысутнасці рускай мовы стварэнне міфа аб пагрозе каталіцтва і паланізацыі з'яўляецца дзейнасцю, якая спрыяе расейскай дамінацыі".

У асноўным жа тэмай публікацыі сталіся рэчы вельмі канкрэтныя -- статыстычныя даныя. Магло б здавацца, што гэта дае пэўную гарантыю аб'ектыўнасці аўтара, калі б абмяжоўваўся ён толькі супастаўленнем і простым аналізам лічбаў. Але ў сапраўднасці гаворка ідзе пра значна шырэйшы гістарычны і грамадскі кантэкст, пра аўтарскія вывады, што далёка выходзяць па-за межы сухіх разлікаў. Гэта ў сваю чаргу выклікае пэўныя наступствы, уласцівыя творчаму працэсу. Мабыць утрымоўвае кніга П.Эберхарта элементы суб'ектыўных падыходаў і ацэнак, якія можна аспрэчыць. Прыкладам, пасля прачытання гэтае кнігі застаецца ўражанне, што аўтар адназначна перакананы ў абгрунтаванасці залічэння шырока зразуметай Віленшчыны да тэрыторый з пераважна польскім жыхарствам. Аднак трэба памятаць, што існуючыя статыстычныя даныя часта няпоўныя і не зусім дакладныя, а часам дык і зусім небесстароннія. Гэта вымагае акрэсленых лагічных канструкцый, што, натуральна, вядзе да пэўнай індывідуалізацыі і суб'ектыўнасці інтэрпрэтацый.

Хутчэй за ўсё выдаўцы не перабольшылі, рэкламуючы гэтую манаграфію як першы добрасумленны твор такога тыпу. Прыдасца ён, без сумніву, не толькі палякам і беларусам, але і расейцам, украінцам, яўрэям -- усім тым, хто жыў на нашай зямлі ў апошнім стагоддзі.

Напрыканцы сваёй працы аўтар прыводзіць абшырную польскую і беларускую бібліяграфію, што тычыцца разгляданай тэматыкі. Застаецца дадаць, што ў выданні знаходзіцца вялікая колькасць табліц, графікаў і карт, якія дасканала ілюструюць тэкст, спрыяючы ўспрыняццю ўтомнай часам (як гэта бывае са статыстычнымі лічбамі) інфармацыі.

Сваю манаграфію аўтар падсумоўвае і заканчвае наступнымі словамі: "На працягу апошніх ста гадоў наступілі вялізныя перамены ў колькасці, размяшчэнні і, перш за ўсё, нацыянальнай свядомасці беларускага народа. Нягледзячы на неспрыяльныя варункі і асабліва татальную русіфікацыю і саветызацыю, насуперак усім трагічным абумоўленасцям, беларуская нацыя захавалася. Распад Савецкага Саюза стварыў вялікія магчымасці і даў вялікі шанц пабудовы цалкам суверэннай нацыянальнай беларускай дзяржавы. Можна толькі мець надзею, што гэты, можа ўжо апошні шанц, не будзе страчаны". Будзем жа гэтую надзею мець.

**Юрась ВАШКЕВІЧ,**
**навуковы супрацоўнік Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф.Скарыны.**

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 50. Падпісана да друку 12. 12.1994 г.